Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 18 (4869) 6 мая 2016 г.



# Блаславёныя шляхі



Фота Кастуся Дробава.

Тут ідзе час — імклівы. Шуміць дарога, лятуць людзі па сваіх справах, чалавечых, мітуслівых, каб паспець. Паспець жыць. Пакінуць пасля сябе нешта.

Так было спакон веку: сыходзілі пакаленні і пакідалі пасля сябе памяць. Верылі, што памяць пра іх захаваюць. Ведалі?!. Мо таму, што самі выхоўвалі сваіх нашчадкаў верай: сувязь паміж роднымі людзьмі не губляецца ў часе, не перарываецца ў пакаленнях, няма ніякіх межаў для яе, калі ёсць бессмяротная душа. Яна прарастае кветкамі ля помнікаў, пасаджанымі з думкамі пра тых, хто жыў да нас, хто рабіў справу, лётаў у мітусні ці здзяйсняў геройчныя ўчынкі, аддаваў жыццё за іншых — дзеля таго, каб дзецям, паслядоўнікам было лепш. Каб яны былі, каб не канчалася гісторыя.

Гэта памяць прарастае дрэвамі, якія хаваюць легенды стагоддзяў. Камянямі і крыжамі, што вырастаюць з зямлі ў самых нечаканых месцах. Крыжы з самых найстаражытнейшых часоў у нашых продкаў былі сімвалам веры і выратавання. Новыя эпохі раскрывалі іх таямніцы, пашыралі сэнс. Але сутнасць тая ж — у вечнасці, пра якую нашы папярэднікі клапаціліся для нас. І расстаўлялі знакі сваёй прысутнасці ў свеце ў самых важных месцах. Крыж — гэта жыццё. Яго сведка. Ахова нашымі продкамі сваёй зямлі. Благаславенне ад іх. Каштоўнасць наша. Ці ёсць яшчэ такая багатая на іх краіна, як Беларусь? Багатая памяццю, якую мы працягваем, кожны ў сваёй сям'і, але разам — усёй краінай.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з днём нараджэння народнага артыста Беларусі Аляксандра Яфрэмава. Гледачам рознага ўзросту блізкія і зразумелыя шчырасць і пранікнёнасць створаных Аляксандрам Яфрэмавым рэжысёрскіх работ, гаворыцца ў віншаванні. «Духоўнасць, патрыятызм і жыццесцвярджальная сіла Вашай шматграннай дзейнасці асабліва важныя ў справе выхавання маладых кінематаграфістаў», — адзначыў Прэзідэнт.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў з юбілеем заслужаную артыстку Расіі Наталлю Андрэйчанка. Валодаючы дзіўным талентам, энергіяй, непаўторнай прывабнасцю, Наталля Андрэйчанка стварыла ў савецкім і расійскім кінематографе цудоўныя жаночыя вобразы, якія палюбіліся мільёнам гледачоў, гаворыцца ў віншаванні. «На беларускай зямлі Вас ведаюць і цэняць як выдатную актрысу. Упэўнены, што Ваша творчасць і ў далейшым будзе дарыць натхненне і добры настрой шматлікім паклоннікам», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Больш як 19 трлн рублёў плануецца накіраваць на выкананне падпраграмы «Мастацтва і творчасць» да 2020 года. Гэта прадугледжана дзяржаўнай праграмай «Культура Беларусі» на 2016 — 2020 гады, паведамляюць у Міністэрстве культуры. Меры скіраваны на падтрымку выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога, манументальнага, тэатральнага, музычнага, харэаграфічнага, кінематаграфічнага мастацтва, прафесійных і непрафесійных (аматарскіх) калектываў мастацкай творчасці, дзейнасці тэатральна-відовішчных арганізацый і клубных устаноў, стварэнне ўмоў для арганізацыі культурнага адпачынку насельніцтва, эстэтычнага выхавання дзяцей і моладзі, пашырэння міжнароднага культурнага супрацоўніцтва.

✔ Комплексная прэзентацыя горада Мінска адбылася ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. Гасцямі сталі прадстаўнікі Урада Масквы, рэгіёнаў Расійскай Федэрацыі, Міністэрства культуры Украіны, а таксама акрэдытаваных у Маскве дыпмісій. У ліку тэматычных блокаў значнае месца было адведзена культурнай спадчыне беларускай сталіцы. У завяршэнне праграмы прайшоў канцэрт з удзелам фальклорнай групы Беларускай дзяржаўнай філармоніі «Купалінка» і вакальнага ансамбля «Чысты голас».

✔ Анталогію вайны прадставяць на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі да Дня Перамогі. Заўтра тут адбудзецца маштабны святочны канцэрт — тэатралізаваная дзея, вытрыманая паводле законаў драматургіі. Рэжысёр-пастаноўшчык — Міхаіл Панджавідзэ, за дырыжорскім пультам — Андрэй Іваноў. Знакамітыя песні ваеннай тэматыкі выканаюць народныя артысты Беларусі Уладзімір Пятроў, Васіль Кавальчук, Ніна Шарубіна, Сяргей Франкоўскі. У канцэрце возьмуць удзел вядучыя майстры балетнай сцэны, сярод якіх — народны артыст Беларусі Канстанцін Кузняцоў, заслужаная артыстка Беларусі Ірына Яромкіна.

✔ Арганізатары «Славянскага базару ў Віцебску» замахнуцца на рэкорд для Кнігі Гінеса. Паводле дырэктара форуму, кіраўніка Сусветнай асацыяцыі фестываляў Аляксандра Сідарэнкі, ёсць задумка арганізаваць конкурс чытальнікаў. Гэта будзе своеасаблівы марафон паэтаў, якія на працягу некалькіх гадзін будуць бесперапынна чытаць вершы. Магчыма, такі марафон зойме каля 10 гадзін. Падбіраецца пляцоўка для мерапрыемства, пачаўся прыём заявак для ўдзелу.

# Культурная эстафета

**Пасля Маладзечна званне «Культурная сталіца Беларусі» 2017 года будзе нададзена гораду Бабруйску. Такое рашэнне было прынята на калегіі Міністэрства культуры 4 мая.**

Упершыню Бабруйск удзельнічаў у конкурсным адборы на статус «Культурная сталіца года» ў 2012 годзе. За мінулых пяць гадоў гарадскія ўлады правялі маштабную работу па развіцці і ўзмацненні базы культурных устаноў, таму да ўдзелу ў акцыі горад можна лічыць падрыхтаваным. А ўлічваючы, што ў наступным годзе Бабруйску спаўняецца 630 год, рашэнне, прынятае на калегіі, стала сапраўдным падарункам для юбіляра.

Зыходзячы з паспяховага вопыту ўдзелу ў рэспубліканскай акцыі Маладзечна, гарадскія ўлады Бабруйска абяцаюць пачаць прадумваць план мерапрыемстваў загадзя. Яны ўпэўнены, што званне «Культурная сталіца Беларусі» дазволіць гораду шырэй раскрыць творчы патэнцыял, прывабіць да гістарычнай спадчыны як беларусаў, так і замежных гасцей.

Бабруйску і сёння ёсць чым ганарыцца. Амаль за некалькі апошніх год там была адкрыта прыгожая карцінная галерэя, у якой экспануюцца як работы мясцовых мастакоў і керамістаў, так і творы ўдзельнікаў пленэру «ART-Жыжаль» з васямнаццаці краін свету. Быў праведзены капітальны рамонт у школе мастацтваў імя Уладзіміра Алоўнікава, што дазволіла арганізаваць у Бабруйску першы конкурс юных піяністаў. Акрамя таго, сёлета да Дня горада будзе ўсталяваны помнік бабруйскаму пісьменніку і кінарэжысёру Эфраіму Сявеле. Візітная картка горада — міжнародны фестываль народнай творчасці «Вянок сяброўства».

Акцыя «Культурная сталіца Беларусі» была ўпершыню распачата ў 2010 годзе. Першым гэтага статусу быў удастоены Полацк. Акрамя Маладзечна, у культурнай эстафеце ўдзельнічалі Гомель, Нясвіж, Магілёў, Гродна і Брэст.

**Вікторыя АСКЕРА**

# На дачу… Да Быкава

**Музей-дача Васіля Быкава — філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры адчыніў дзверы для наведвальнікаў у новым сезоне.**



Яшчэ ў 1993 годзе Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры атрымаў у дар ад самога Быкава больш за 1000 адзінак матэрыялаў: фатаграфіі, лісты родных, перапіска з пісьменнікамі і дзеячамі культуры Беларусі і замежжа, рукапісы мастацкіх твораў, кнігі. У 2012-м жонка перадала рэчы, якія знаходзіліся на дачы Васіля Уладзіміравіча пры яго жыцці, а таксама некаторыя матэрыялы з кватэры пісьменніка ў Мінску (усяго больш як 1600 адзінак).

Музей-дача Васіля Быкава адкрыўся 19 чэрвеня 2014 года да 90-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі. Стваральнікі зрабілі ўсё магчымае, каб захаваць будынак дачы, інтэр'ер, тэрыторыю, паказаць іх такімі, якія яны былі ў час Быкава. Гэта першы ў Беларусі музей, створаны на дачы, што дае ўнікальную магчымасць паказаць загараднае жыццё інтэлігенцыі апошняй трэці XX стагоддзя на прыкладзе сям'і Васіля Быкава.

Як распавяла Вольга Гулева, укладальнік экспазіцыі і загадчыца навукова-экспазіцыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, дача не раскрывае дэталі творчасці Быкава — прачытаць яго творы людзі могуць самі, — у музеі хацелі расказаць пра Васіля Уладзіміравіча як пра гасціннага гаспадара, сябра, мастака, аўтамабіліста. Тут пабывала такая вялікая колькасць гасцей — сем'і Алеся Адамовіча, Генадзя Бураўкіна, тут бываў Георгій Паплаўскі... Васіль Быкаў з'язджаў на дачу ад гарадскога шуму, ад асфальту. Яго заўсёды цягнула да прыроды, чалавек ён быў вясковы, а дача давала глыток свежага паветра.

Музей-дача прымае ўсіх жадаючых штодня з 12.00 да 18.00, акрамя панядзелка, аўторка і святочных дзён.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Пад прыцэлам актуальнасці

**Лепшыя фатаграфіі з усяго свету прыехалі ў Мінск. Няпростыя гісторыі людзей ад пачатку да канца. Праз аб'ектыў мы адчуваем іх гора і надзею, вучымся мужнасці і дабрыні. Напрыклад, на фотаздымках Нэнсі Бораўік (ЗША) — апошні год з жыцця яе бацькоў. Яны вырашылі правесці месяцы, што засталіся, ствараючы новыя ўспаміны, замест таго, каб засяроджвацца на сваёй бядзе… Ёсць чаму павучыцца.**



Працы іншых прадстаўлены на выстаўцы *World Press Photo 2016*, што адкрылася 3 мая ў прасторы «ЦЭХ».

*World Press Photo* — арганізацыя, якая займаецца правядзеннем адной з самых буйных прэмій у галіне фотажурналістыкі. На гэты раз прызы дасталіся 41 фатографу ў васьмі намінацыях.

Выстаўка праходзіць у Мінску трэці раз, але ў пашыраным фармаце — на буйных стэндах. Пасля Беларусі экспазіцыя наведае амаль 100 гарадоў з 45 краін свету. У «ЦЭХу» з ёй можна пазнаёміцца да 24 мая.

У фокусе рэпарцёраў сёлета апынуліся праблемы бежанцаў і забруджвання атмасферы, клопаты пра жывёл, што пад пагрозай знікнення. Журналісты адлюстравалі ваенныя падзеі ў Сірыі, сацыяльныя пратэсты, прыродныя катастрофы… Гэтыя фотаздымкі трэба паказваць людзям, каб задумваліся над учынкамі, мянялі светапогляд, звярталі ўвагу на праблемы.

Каб акрыяць ад эмацыянальнага шоку, можна звярнуцца да тэмы спорту. Убачыць, напрыклад, фрагменты выступлення майстроў сінхроннага плавання, якое патрабуе неверагоднай гнуткасці і самакантролю, альбо турнір сенегальскага рэслінгу, сімвала мужчынскай сілы.

**Марыя ВОЙЦІК**

## Ідзе падпіска на II паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | 1 месяц (у новых цэнах) | Падпісны індэкс |
|---|---|---|---|
| *Для індывідуальных падпісчыкаў* | **37 400 руб.** | **3,74 руб.** | 63856 |
| *Ведамасная падпіска* | **104 000 руб.** | **10,40 руб.** | 638562 |
| *Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў* | **23 900 руб.** | **2,39 руб.** | 63815 |
| *Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі* | **78 600 руб.** | **7,80 руб.** | 63880 |

# Сімвалы Вялікадня



**Галоўнае хрысціянскае свята Вялікдзень ужо прайшло, але адчуванне ў душы светлага і шчырага настрою засталося. З нагоды свята на працягу мая на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў фальклорна-этнаграфічным кабінеце-музеі беларускай культуры (аўдыторыя 319) экспануецца выстаўка велікодных яек і паштовак.**

Экспазіцыя неверагодна цікавая. Дэманструюцца ўнікальныя вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у тым ліку з іншых краін свету — Расіі, Украіны, Чэхіі, Германіі і Галандыі. Творы выкананы ў разнастайных тэхніках. Важнае месца займае калекцыя з шаснаццаці велікодных яек, упрыгожаных у тэхніцы фрывалітэ. Гэта тэхніка пляцення ручных карункаў пры дапамозе адмысловых чаўнакоў або іголкі з тупым канцом. Калекцыю музею передала беларуская майстрыха Юлія Цярэнцьева. Акрамя яек, у экспазіцыі ёсць праваслаўныя крыжы майстрыхі, выраблены па тым жа прынцыпе. Яны сімвалізуюць агульнасць хрысціянства, народнага ўяўлення пра яго, паказваюць, што вясна і Вялікдзень — не толькі ўваскрэсенне Хрыста, але і ўваскрэсенне прыроды.

Можна ўбачыць на выстаўцы і яйкі, падараваныя музею яшчэ да яго адкрыцця (музей адкрыты ў 2006 годзе). Яны звараныя адмысловым чынам. Калі трымаеш, адчуваецца, што ёсць жаўток. Улічваючы, што экспанатам больш за дзесяць год, гэта дзіўна. Прадстаўлены яйкі і з прыгожымі роспісамі: выявы цэркваў, святых і анёлаў. Дэманструюцца і дарэвалюцыйныя яйкі. Самы арыгінальны экспанат — каменнае яйка, на якім тоненка праяўлены крыж. Можна падумаць, што яго зрабіў майстар, але ж супрацоўнікі музея сцвярджаюць, што гэта цуд, і крыж стварыла прырода. Уражваюць яйкі падобныя на Фабержэ і зробленыя з дарагіх матэрыялаў. Напрыклад, яйкі з бурштыну альбо багемскага шкла і яйкі, аздобленыя сапраўдным золатам.

Цікава ўбачыць велікодныя падвясныя яйкі, якімі раней людзі напярэдадні свята ўпрыгожвалі дом. Тут прастора для фантазіі вялікая: яйкі рабілі рознакаляровыя, вымалёўвалі на іх святочныя сімвалы, сплятлі пазалочаныя ніткі, а пасля аб'ядноўвалі яйка і нітку ў адзіную канструкцыю і вешалі на цвікі.

Дэманструюцца на выстаўцы і велікодныя паштоўкі. З сюжэтамі пра тое, як людзі сустракаюць Уваскрэсенне Хрыстова, з кароткімі прымаўкамі. Велікодная паштоўка, пазначаная назвай «Дорага яечка ў хрыстоў дзень», датуецца 1914 годам.

Арганізатары выстаўкі адзначаюць, што велікодная экспазіцыя прываблівае гледачоў. Паглядзець на экспанаты прыходзяць не толькі студэнты ўніверсітэта. Завітваюць зацікаўленыя традыцыямі і сімваламі Вялікадня. Выстаўка ладзіцца не першы год і з кожным разам папаўняецца.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

# Песняру прысвячаецца

**На розных абласных тэатральных пляцоўках Беларусі спектакль «Пясняр», прысвечаны выдатнаму дзеячу беларускай культуры, народнаму артысту СССР Уладзіміру Мулявіну, збіраецца паказаць Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Максіма Горкага.**

Сёлета таленавітаму песняру павінна было споўніцца 75 год. З нагоды юбілею Рускі тэатр вырашыў распачаць вялікую гастрольную праграму. Першымі пастаноўку ўбачаць жыхары Гомеля: спектакль адбудзецца 1 чэрвеня на сцэне Гомельскага драматычнага тэатра. Затым 3 і 4 чэрвеня «Песняра» пакажуць на пляцоўцы Брэсцкага тэатра драмы, а 6 чэрвеня ўнікальны тур скончыцца ў Гродзенскім драматычным тэатры.

Пасля завяршэння гастроляў спектакль «Пясняр» будзе дэманстравацца на фестывальных пляцоўках: 11 чэрвеня — на XVI Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі «Маладзечна», 16 ліпеня — на XXV Міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». 3 верасня, у Дзень беларускага пісьменства, госці Рагачова таксама атрымаюць магчымасць убачыць пастаноўку пра таленавітага артыста.

Спектакль «Пясняр» амаль два гады трымаецца ў праграме Рускага тэатра. Рэжысёр пастаноўкі Валянціна Еранькова поспех тлумачыць не прафесійнай ігрой акцёраў альбо паспяховай рэжысурай, яна ўпэўнена: цікавасць выклікае менавіта асоба Уладзіміра Мулявіна, яго лёс і творчасць. Таму спектакль — магчымасць зірнуць на свайго куміра яшчэ раз, даведацца новыя факты з жыцця музыкі і адчуць моц яго таленту.

**Вікторыя АСКЕРА**

*Фэст*

# Ісці на гукі

## Больш за 30 музычных калектываў знайшлі свае «Месца пад сонцам»



**Фестываль вулічнай музыкі пад такой назвай пройдзе ў Мінску другі раз. Значыць, ёсць цікавасць да музыкаў, якім не патрэбная спецыяльная сцэна, каб іграць і спяваць для людзей.**

Проста так паслухаць Дзядзьку Ваню, гурты «*Vuraj*» ці «*HURMA*», пазнаёміцца з адкрыццём айчыннага адбору «Еўрабачання» «*NAVI*» і нават адчуць пабеларуску грунтоўны і «цяжкі» «*Re1ikt*», а таксама шэраг іншых «каманд», калектываў і асобных артыстаў. Усё гэта ў цэнтры горада, у яго старым, але жывым сэрцы — цяпер яно б'ецца ў новым рытме паводле задумы гарадскіх улад. Таму што сярод арганізатараў фэсту «Месца пад сонцам» — Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, які хоча падкрэсліць культурныя вартасці сталіцы, у тым ліку прыцягнуць увагу турыстаў цікавымі імпрэзамі ў Верхнім горадзе. Прыходзіць паслухаць і «патусавацца» можна проста так, але і з мэтай: усе добраахвотныя ахвяраванні і матэрыяльныя падзякі ад удзячных гледачоў музыкі вырашылі пералічыць у фонд «Галоўнае жаданне», які апякае невылечна хворых дзяцей. Планаваць наступныя выхадныя лепш загадзя: фэст адбудзецца 14 мая з 13 да 22 гадзін. На тэрыторыі Верхняга горада вулічным музыкам аддадуць чатыры пляцоўкі.

**Марыя АСІПЕНКА**

## Дайджэст

• Названы лаўрэаты Новай Пушкінскай прэміі. «За сукупны творчы ўнёсак у айчынную культуру» прэмія прысуджана паэту Віктару Кулэ. Памер узнагароды — 300 тысяч расійскіх рублёў. Акрамя таго, савет прэміі пад старшынствам Андрэя Бітава прыняў рашэнне адзначыць спецыяльным дыпломам «За захаванне радавой памяці» творчы калектыў аўтараў зборніка «Зроднікі: мы з Заанежжа» (Петразаводск, 2015). У зборнік увайшлі апавяданні 50 простых людзей ад 53 да 95 гадоў з Заанежжа, якія на старонках кнігі ўспамінаюць сваё жыццё, выкарыстоўваючы заанежскі дыялект. Цырымонія ўручэння Новай Пушкінскай прэміі адбудзецца 26 мая ў музеі А. С. Пушкіна ў Маскве. Новая Пушкінская прэмія заснаваная ў 2005 годзе фондам Аляксандра Жукава, Дзяржаўным музеем А. С. Пушкіна і Дзяржаўным музеем-запаведнікам «Міхайлаўскае». У 2005 годзе першым лаўрэатам Новай Пушкінскай прэміі стаў даследчык рускай і заходнееўрапейскай літаратуры Сяргей Бачароў.

• Жывыя галасы беларускіх паэтаў сабралі ў адно выданне: пабачыў свет зборнік аўдыязапісаў 60 творцаў, якія чытаюць свае вершы. Дыск называецца «Галасы паэтаў». Выданне падрыхтавала спявачка Таццяна Грыневіч-Матафонава. 18-ці паэтаў, запісы якіх увайшлі ў збор, ужо з намі няма. Гэта Якуб Колас, Янка Купала, Ларыса Геніюш, Пімен Панчанка, Наталля Арсеннева, Анатоль Сыс, Рыгор Барадулін і іншыя. Галасы тых, хто ўжо адышоў, давялося шукаць па сваяках і знаёмых. 42 сучасныя паэты начытвалі свае вершы ў студыі.

• Рэжысёр Іраклій Квірыкадзэ распавёў СМІ, што Мікіта Міхалкоў у найбліжэйшы час здыме мастацкі фільм пра Аляксандра Грыбаедава. Гэта будзе аповед пра эпоху і імперыю. Галоўнае — пра каханне. Сцэнарыст і аўтар кнігі «Хлопчык, які ідзе за дзікай качкай», растлумачыў, што ідэя экранізаваць жыццё вялікага класіка пачала ўвасабляцца ў рэальнасць яшчэ ў сярэдзіне 1980-х, калі Міхалкоў і Адабаш'ян пачалі працу над сцэнарам задуманай карціны. Тэкст пісалі цэлы год, аб'ездзіўшы шмат месцаў. Пабывалі і ў Вене, дзе захавалася шмат архіўных матэрыялаў пра Грыбаедава. У выніку плённай працы трох рэжысёраў нарадзіўся «эпічны раман-сцэнар» на 800 старонак! Пры гэтым, акрамя вядомай са школьнай парты хрэстаматыйнай біяграфіі аўтара бессмяротнай камедыі «Гора ад розуму», у тэкст увайшлі малавядомыя факты з жыцця Аляксандра Сяргеевіча.

• Чарльз Шылдс, даследчык жыцця і творчасці Харпер Лі, знайшоў артыкул, напісаны знакамітай пісьменніцай. У ім распавядаецца пра падзеі, якія сталі сюжэтнай канвой для кнігі Трумэна Капоце «Стрыманае забойства». Над гэтым артыкулам пісьменніца працавала ў 1960 г. па замове спецыялізаванага весніка ФБР *Grapevine*. Пісьменніца распавяла пра злачынства ў канзаскай вёсцы, якое здарылася ў 1959 г., калі па-зверску забілі сям'ю фермера Клэтэра з двума дзецьмі. У тэксце выкарыстаны запіс размовы з аператыўным супрацоўнікам Элвін Дзьюі, які расследаваў гэтую справу. Праз некалькі гадоў сябар Харпер Лі, пісьменнік Капоце, апублікаваў свой раман, выкарыстаўшы матэрыялы з артыкула Харпер, а таксама правёў уласнае расследаванне. Ён змог сабраць вялізную колькасць інфармацыі, звязаную з забойствам. Дасье ўключала прыкладна 8000 друкаваных старонак.

# Эпсілан Ліры

**Ёсць такое сузор'е ўвышыні — Сузор'е Ліры. І ў ім — кратная зорка Эпсілан Ліры. Кратная, таму што параўнальна нядаўна за яркім свячэннем быццам бы адной гэтай зоркі астраномы з дапамогай сучасных тэхналогій здолелі ўбачыць свячэнне адразу некалькіх планет, якія блізка ці ілюзорна блізка існуюць адна ад адной… Гэта сітуацыя калі-нікалі нагадвае і становішча ў нашай беларускай літаратуры, асабліва ў яе лірыцы, але і не толькі. Бывае, навукоўцы бяруцца за біяграфію і творчасць адной асобы — «зоркі», і становіцца бачна, што вывучаць яе без блізка міргаючых «зорачак» і «сонцаў» побач немагчыма. Напрыклад, «зорка» і адзін з самых «касмічных» нашых літаратурных класікаў пачатку мінулага стагоддзя Максім Багдановіч (верш «Зорка Венера» і інш.) Без бацькі-этнографа Адама Багдановіча? Без нашаніўцаў? Без Сяргея Палуяна?..**



Але бывае і так, што, наадварот, у адной асобе лірніка (паэта), увогуле пісьменніка ці адоранай шмат якімі талентамі асобы, гарыць, міргаючы markedзнымі колерамі, цудоўнае, як ад шматграннага каштоўнага каменя, святло. Такога творцу таксама можна назваць «кратнай зоркай». Такі «Эпсілан Ліры» на нашым літаратурным небасхіле — легендарны паэт Зніч (псеўданім, сапраўднае імя — Алег Андрэевіч Бембель).

Алег Бембель, сын вядомага беларускага мастака, славутага скульптара Андрэя Ануфрыевіча Бембеля (дарэчы, аўтара знакамітага гарэльефа для Манумента Перамогі ў Мінску — «9 Мая 1945 года»), нарадзіўся 16 снежня 1939 г. Вучыўся ў Беларускім політэхнічным інстытуце на энергетычным факультэце, але не закончыў. Таленавітага ад прыроды юнака прыцягнула музыка. Пасля поўнага курса навучання ў 1969 г. Алег скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класе фартэпіяна. І раптам — новы паварот лёсу: у 1971 — 1974 гг. Алег Бембель працуе дасведчыкам ў Інстытуце філасофіі і права АН БССР. Зацікавіўся беларускімі народнымі і інтэрнацыянальнымі элементамі ў літаратуры і блізкіх гуманітарных сферах.

З канца 1970-х гг. ён пачынае друкаваць свае літаратурныя творы, сплаў філасофскіх назіранняў і лірычнай мелодыі, у якія ўсё часцей упляталіся публіцыстычныя «стаката», — у штотыднёвіку «ЛіМ», часопісах «Беларусь», «Крыніца», «Маладосць», «Полымя» і іншых выданнях. Нейкі час працаваў на беларускім тэлебачанні, а з 1991 г. — у Нацыянальным навукова-даследчым цэнтры імя Францыска Скарыны… Зорка яго неардынарнай асобы свяціла ярка і шматколерна! У гады распаду СССР і новай хвалі ўзмацнення дзяржаўнай незалежнасці Беларусі раптам, як цуд, ён пачуў «музыку сфераў» — музыку матчынай мовы, матчынай песні, матчынай нястрогай і добрай малітвы, прывабнасць чароўнай іншасказальнай мовы народных казак, трапнасць прымавак і прыказак, загавораў… І журбу, што гэтага ўсяго ў сучасным будзённым гарадскім жыцці так мала. «Чаму?» — пытаўся ён сам у сябе, у іншых, нарэшце, у Бога… Сціплы, свабодалюбны, таемны (як аднайменны свяшчэнны падземны агонь продкаў — Зніч), паэт Зніч атаясамліваў шырокае карыстанне роднай мовай і маральна-эстэтычны прагрэс нацыі. Сёння яго ідэі гучаць вельмі актуальна для дзяржаўнасці краін Еўропы, Азіі і наогул усяго свету.

Зніч успыхнуў, як новая зорка, у 1985 г., калі за мяжой, у Лондане, выйшла яго кніга на гэту тэму. Гэта можна параўнаць і з небяспечным выхадам касманаўта з касмічнага карабля на арбіце ў адкрыты космас.

У другой палове 1980-х, у творчым «сузор'і» Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» (за асобнымі яго «зоркамі» назіралі тады многія з малых і вялікіх тэлескопаў, прычым з самых розных «абсерваторый»), Зніч, гэты немалады гарэза, «раскол», як кажуць на няўрымслівых хлопчыкаў у народзе, паміргаў крыху свaімі дробнымі вершыкамі на вечаровых пасяджэннях. Усё ж шумная гамана была не для яго… Ён ужо знайшоў, як пісаў пасля, іншую паэзію — «Высокую Паэзію Хрыста». І збіраўся аддацца ёй назаўсёды.

Мы пазнаёміліся з ім якраз тады, у час пакутлівага «пераходнага перыяду» паэта. Джут, джынсы, белая кашуля, або цішотка, саламяны залацістыя абруч на галаве. І густыя хвалістыя напаўсівыя валасы да плячэй і ніжэй (пасма белых, пасма цёмна-русых, як цяпер робяць «меліраванне»; нешта ад знаёмай тэхнікі выяўленчага мастацтва, калі прыглядзецца да палатна бліжэй, яшчэ бліжэй…) Добрыя вочы чарадзея… Бяседа загадкамі. Амаль музычнае выпяванне фраз… Такім мне запомніўся паэт Зніч. І яго вершы-пацеркі: жалуды або чырвоныя ягады рабіны на моцнай льнянай нітцы з незавязанымі канцамі (гэтыя яго частыя шматкроп'і ў пачатках і канцах вершаў, асобных паэтычных радкоў). Вось узор з верша «Боязь» прыкладна той «джутавай» пары:

*…баюся пабурыць агонь*
*тваёй пяшчотнае сябрыны,*
*бо ён жывы — пакуль нявінны…*
*пакуль самотная далонь…*

Гэта верш са зборніка «Нябёснае і зямное» (Мінск, 1994, с. 24). Усе творы ў ім прысвечаны зямной любові і каханню. Ён нават і псеўданімам сябе пазначыў адпаведным — Ліставей… Але ў сэрцы Зніча ўжо зацвітала нябесная любоў — да Хрыста. Пра гэта гаворыцца і ў адным з апошніх вершаў гэтага зборніка:

*…я не магу ісці са злом,*
*бо я жыву у чыстым часе,*
*у безупынным, вечным шчасці —*
*бо я заўсёды — са Хрыстом…*

*…а як нячысты апляце*
*у сне чароўным маё сэрца,*
*яно спахопіцца, прачнецца —*
*і ў пакаянні — зацвіце…*

Шкада было развітацца з ім пасля. Каб пасля, як ён хацеў, сустрэцца ў багатым Божым Залюстроўі Жыцця ўжо зусім з іншай асобай, індывідуальнасцю. Многія назавуць гэты яго крок Подзвігам, Падзвіжніцтвам, Правым (правільным) Слаўным Шляхам…

У сярэдзіне 1990-х Зніч зладзіў сяброўскі канцэрт-кватэрнік, які можна было б назваць «Санатай Поўні» (яна была асноўным нумарам у яго праграме ў той халодны, белы, сумны развітальны вечар). Ён граў гэту геніяльную рэч апантана, на памяць, некалькі хвілін у поўнай цемры, — як сам асляплы Людвіг ван Бетховен. Бо Зніч ужо ведаў, што развітваецца са звыклым сталічным жыццём, шырокімі сталічнымі вуліцамі, «прамяністымі» сталічнымі сябрамі — паэтамі, мастакамі, гартаннымі пявуннямі, музейнымі работнікамі, навукоўцамі, журналістамі… А яны не зналі. Толькі некаторыя здагадваліся, што ідзе ператтварэнне. Што яго вечны «кокан» апошніх заблытаных гадоў як бы трашчыць знутры, і ад яго адвальваюцца цёмныя кавалачкі, і нехта Іншы хоча адтуль выйсці да ўсіх. Але Хто? Расчараваны? Або Умацаваны — новай верай! — чалавек? Акрылены хрысціянскай малітвай, з аднаго боку, і выкананнем хрысціянскіх абрадаў — з другога (бо толькі з аднаго боку быць акрыленым — няправільна, тлумачаць святары). Крылы павінны быць парай, каб істоце Божай стаць, напрыклад, тым жа народжаным з кокана матыльком. Або птушкай, якая ляціць над залатымі макаўкамі храмаў. Або Анёлам, Архангелам…

Калі ён пазбавіўся і бацькавай сядзібы, дзе апошнія гады жыў-галадаў-трызніў, пісаў вершы і выдаваў кніжкі, у памяшканнях амаль без мэблі, але з шапаткімі гірляндамі сухіх восеньскіх лістоў, занесеных ветрам праз адчыненыя дзверы балкона, тады канчаткова з'ехаў жыць у Слонім. У Жыровіцкі праваслаўны манастыр. А гэта сядзіба, пасля музей, таксама была яму пэўным «вялікім коканам». «Касмічнай станцыяй», якую Капітан пакідае апошнім….

У 1996 г. Алег Бембель (Зніч) пераехаў стала жыць у Слонім, стаў паслушнікам Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра. Ён утварыў і сам ачоліў у Слоніме літаб'яднанне «Крэсіва», пачаў выдаваць унікальны багаслоўска-літаратурна-мастацкі лісток «Жыровіцкая Абіцель», старонкі якога былі шчодра перасыпаны выявамі маленькіх праваслаўных крыжоў. Нават літару «т» інак Мікалай (Зніч) пачаў пісаць як крыж. Праводзіў у новым статусе асветную і педагагічную працу (напрыклад, арганізаваў для рэлігійнай і літаратурнай моладзі Слоніма «Слонімскія каляды — 1999»), прыязджаў у Мінск на канферэнцыі… Выдаваў рэлігійна-паэтычныя зборнічкі і перадаваў-дарыў сябрам. Бо сябры — гэта на ўсё жыццё, яны воляю Бога былі некалі сабраныя разам.

Так прайшло амаль 20 гадоў. Нядаўна Алег Бембель (Зніч) стаў манахам Іаанам. Як дзве вялікія «белыя цагліны» ў будучы выснены Белы дом Беларусі — яго апошнія па часе кнігі «Крэсіва» (2012) і «Шляхам сумоўя» (2015), дзе сабраныя вершы і працы А. А. Бембеля (Зніча) самых розных гадоў, а таксама матэрыялы з перыёдыкі пра асобу пісьменніка-багаслова і яго знакамітую сям'ю. На верхняй белай вокладцы яго імя пададзена чырвонай фарбай, ламаным шрыфтам — як маланка, як сучасны электронны подпіс, які выкарыстоўваецца ў офіснай дакументацыі. Можна сказаць, хаваючы веснавую ўсмешку, што Зніч сёння — як бы супрацоўнік «Нябеснай канцылярыі».

Акрамя пачуцця рытму, музычнасці фраз, «наэлектрызаванасці» крывых (лесвічкай) і кароткіх, як успышкі маланак, радкоў, тэксты-малітвы пасталелага Бембеля-Ліставея-Зніча-Іаана здзіўляюць актуальнасцю, блізкасцю да глабальных праблем сучаснасці. Часам вершы падобныя нават на памфлеты, рыфмаваную сатыру, злабадзённы зварот-прызыў чуйнага, мудрага жыровіцкага старца. І як яму ўдалося прадбачыць са сваёй келлі яшчэ 5 гадоў таму ўсё наша сённяшнясамаебалючае: міжнародны тэрарызм, натоўпы мігрантаў, што акупавалі Еўропу? Вось кароткі верш «Хрысціянская Эўропа айчынаў» з яго зборніка «…Між тэктанічных пліт…» (Слонім, 2011, с. 116), які ўражвае:

*…уваскрасай —*
*не пакрысе…*
*а — ва ўсёй сіле*
*і красе!..*

Калісьці Зніч быў для нас амаль драздовічавым Дзедам-Космасам, пушкінскім Дзядзькам-Чарнаморам, які ішоў спераду і вёў наша паэтычнае воінства, аднага за адным, з чорнага, таямнічага мора Памяці — на бераг Рэальнасці (Актуальнасці). Ішоў спераду, а з пэршага ж моманту апынуўся ззаду, у самым для нас мінулым… Так закручваецца зорная прастора. Такі лёс усіх папярэднікаў: быць у пачатку і стацца адначасова ў самым канцы. Быць скрайнім… Гэта законы Неба, якія нас вучыў спасцігаць Зніч. Ён — крыніца самаахвярнага святла. І што яшчэ?

Ён верыць у матчыну мову (нацыянальную мову, нацыянальныя традыцыі — у тым ліку ў традыцыйную сям'ю) і маральны прагрэс. Не жадае, каб яны зніклі! У сваім паэтычным зборніку «За мурам» (Слонім, 2007) у адным з вершаў, прысвечаным маладзейшаму паплечніку — хрысціянскаму дзеячу, з назвай «Анатолю Клышку і ўсім, хто любіць Беларусь» памудрэлы Зніч звяртаецца, здаецца, да ўсіх нераўнадушных:

*…Брат, збірай Беларусь…*
*па каменьчыку…*
*час — прадсконны… збірай камяні…*
*нават мёртвыя ў скрусе ўкленчылі…*
*шанец ёсць яшчэ… не абміні…*

Вецер, які некалі заносіў лёгкія сухія лісты ў пакоі выстылай сядзібы Зніча, развявае канцы лёгкіх шалікаў на грудзях маладых хрысціянак. Яны ідуць з тварамі, поўнымі шчаслівага чакання, прадчування сустрэчы… Вернікі Беларусі цешацца з непарушных традыцый і характва сваёй Веры.

*…у свет ліюць святло*
*Святыя мошчы…*
*у сэрцах —*
*Царства Божае жыве…*
*…ратунак —*
*у Хрыстовае Царкве…*

Урыўкам верша Зніча з яго зборніка «…Між тэктанічных пліт…» (Слонім, 2011, с. 106) мы і закончым наша сённяшняе «зорнае вандраванне».

Людка СІЛЬНОВА

# Пакінуць Касталію

**Змены ў сучаснай культуры сёння згадваюцца вельмі часта — пераважна праз супрацьпастаўленне элітарнага і масавага, глабалізацыі і ідэі захавання нацыянальнай культуры. Інтэлектуалы, блізкія да беларускага творчага асяродка, звычайна глядзяць на новую культурную сітуацыю песімістычна. Ці варта?**

«Беларуская версія гесэўскай Правінцыі Касталія» — выдатнае вызначэнне айчыннай культурнай прасторы, прапанаванае філосафам Валянцінам Акудовічам.

«Ад чаго імкнуцца адмежавацца насельнікі беларускай Касталіі?» — на гэта пытанне філосаф адказвае ў некалькіх тэкстах новай кнігі «Прачнуцца ранкам у сваёй краіне».

## НЯЎТУЛЬНА

Прадстаўнікі сучаснай беларускай культуры, шматкроць узнагароджаныя эпітэтамі «славуты» і «выбітны», сёння застаюцца невядомымі для большасці сугрмадзян, якія ў прынцыпе не цікавяцца падзеямі ў гэтай сферы (канкрэтную лічбу «большасці» нават не хочацца ўдакладняць статыстычна). Валянцін Акудовіч згадвае шэраг прычын сітуацыі: кволая нацыянальная свядомасць народа, «гібрыдная» інтэрвенцыя Расіі, фатальнае супадзенне часу магчымай рэалізацыі праекта Адраджэння і выбуху камунікацый.

«Сёння беларускасць, беларуская мова, гісторыя, культура ў цэлым — гэта не прастора жыццядзейнасці грамадства, а прытулак для інтэлектуалаў, духоўнай эліты, для ўсіх тых, каму няўтульна без апранахі культуры». Гэтым сцвярджэннем Валянцін Акудовіч супрацьпастаўляе беларускую Касталію, па-першае, масавай культуры і, па-другое, метакультуры, якая фарміруецца ў камунікатыўна адкрытым грамадстве.

## НІХТО Ў НІДЗЕ

На думку філосафа, галоўнай пагрозай для нацыянальных культур робіцца перавага інфармацыйнага дыскурсу над культурным. Дзякуючы інтэрнэту набыткі іншых культур не менш блізкія да чалавека, чым набыткі ўласнай культуры. У выніку прасторавая адлегласць (а значыць, і сама прастора) амаль знікае. «У грамадстве татальнай інфармацыі суб'ект перастае ідэнтыфікаваць сябе хоць з якім культурным кодам і з гэтага быційна апынаецца не толькі ў сітуацыі Нідзе, але і ў сітуацыі Ніхто, гэта значыць, у сітуацыі анталагічнага вакууму». Зварот да нацыянальнай культуры (збольшага ігнараваны чалавекам інфармацыйнай эпохі) актуальны для тых, хто хоча ўцячы ад «касмічнага холаду метакультуры», ад сітуацыі Нідзе і Ніхто і працягвае лічыць каштоўнай культуру ў традыцыйным разуменні.

Відавочна, каб прадэманстраваць пэўную тэндэнцыю, філосафы пакідаюць па-за ўвагай неістотную канкрэтыку, — і на гэта не варта забываць чытачу. Пакуль што прастора не знікла дашчэнту, бо чалавек яшчэ мае звычку часам адрывацца ад манітора ці дысплея і цікавіцца рэальнымі культурнымі падзеямі — выпраўляцца на *open-air* з музычнымі гуртамі ды гістарычнай рэканструкцыяй, на фестываль кніг ці вулічных тэатраў. Да таго ж прастора працягвае лучыць з мінулым, якое цікавіць сённяшніх беларусаў, магчыма, не менш, чым некалькі пакаленняў таму. А разважаючы пра магчымасці «культурнага адпачынку», жыхар Бабруйска ці Дзятлавічаў добра ўсведамляе, што камп'ютар з інтэрнэтам яшчэ не робіць яго жытло цэнтрам сусвету...

Праблема раз'яднанасці людзей інфармацыйнай эпохі, верагодна, будзе ўсвядомлена раней за перамогу метакультуры — стомленыя ад адзіноты Ніхто адчуюць патрэбу ў сваім і блізкім, ды раптам зазірнуць да цяпельца, распаленага ў беларускай культурнай Правінцыі.



Знакі нацыянальнай культуры і сёння патрэбны Беларусі — прынамсі, каб сведчыць пра яе суверэнітэт. Але працаваць на карысць беларушчыны можна толькі з упэўненасцю, што гэта патрэбна не толькі насельнікам Касталіі, але і паспалітаму люду. Калі ўпэўненасць ёсць — варта рэалізоўваць ідэі, прывабныя для суграмадзян. Зразумела, што пасля інфармацыйнага выбуху маленькім нацыянальным культурам складана змагацца з дасяжнай для ўсіх метакультурай. Да таго ж многія касталійцы па вызначэнні не схільныя да пошуку паспяховай камунікацыі з насельнікамі вакольнай культурнай прасторы.

## АДМАЎЛЕННЕ АД ВЫШЫНІ

Касталія — гэта магчымасць схавацца ад масавай культуры, непрывабнай для ўсіх, хто мае развіты інтэлект і эстэтычны густ. Мыльныя серыялы, расійская папса, бульварныя раманы — хіба магчыма ставіцца да гэтага прыязна? Масавая культура — з'ява, якая мае неакрэсленыя межы і разам з тым дакладны набор непрывабных рыс. Па-першае, гэта банальнасць, адсутнасць пошукаў вышыні альбо глыбіні і «выдаленне хоць якіх эўрыстычных сэнсаў». Масавая культура па вызначэнні «карыстаецца тэхнічнымі прыёмамі і выканаўчым майстэрствам "высокага" мастацтва для перадачы спрошчанага, інфантылізаванага сэнсавага і мастацкага зместу, адаптаванага да непатрабавальнага масавага спажыўца».

Па-другое, у сферы этычнага і эстэтычнага масавая культура пазбаўленая рэзістэнтнасці класічнай культуры да нявартага, нягоднага і брыдкага, бо вольная ад ідэалу святасці, дабра ці хараства. Таму, як заўважае філосаф Павел Баркоўскі, яна дапускае «паяднанне рэчаў зусім адрозных — знарочнай пабожнасці з непрыхаваным блюзнерствам, выкшталцоўнай далікатнасці і брутальнасці». У гэтым пункце маскульт адрозніваецца ад савецкай афіцыйнай культуры, якая сцвярджала ідэал чалавека і ўключала значна менш негатыву.

Працягваючы развагі Хасэ Артэга-і-Гасэта, Валянцін Акудовіч слушна звяртае ўвагу на тое, што сёння маскульт не проста суіснуе з элітарнай культурай, а выштурхоўвае яе і робіць непатрэбнай грамадству. Навошта дзяўчыне-падлетку браць з бацькавай паліцы кнігу Караткевіча, калі ўсе сяброўкі чытаюць *Cosmopolitan*? Навошта засяроджвацца на складаным, калі можна жыць лёгка? Прага лёгкага, радаснага, прывабнага і захапляльнага прадвызначае выбар культурных тавараў, якія трапляюць у спажывецкі кошык.

Адпаведна, творцы «самахоць пачынаюць адмаўляцца ад вышыні. (...) Паколькі спрэс збаналізаваны свет тоесніць сябе выключна з паверхняй (быцця), дык кожны стваральнік артэфактаў высокага мастацтва нават паўз уласную волю выштурхоўвае сябе з гэтага свету людзей у блакітнае нікуды». Нават філасофія, паводле Акудовіча, «знянраўдзіла свой найвысокі дыскурс — метафізіку, а ў астатнім перафарматавала сябе пад сацыяльныя і палітычныя навукі».

Вядома, у жыцці ці не кожнага чалавека час ад часу паўстае патрэба калі не «зорнага неба», то прынамсі падказкі ў вырашэнні жыццёвых праблем. Ці варта сёння браца за раман, каб дапамагчы суайчынніку паразумецца з сабой і з іншымі, перамагчы дэпрэсію, утрымацца ад апошняга кроку ў крызіснай сітуацыі?.. Пісьменнік, які хоча быць прачытаным, верагодна, звернецца да дакументалістыкі ці навукова-папулярных жанраў. Так, напрыклад, з'яўляюцца невялічкія выданні літоўскага пісьменніка Яронімаса Лаўцюса, які збірае гісторыі пацыентаў Вільнюскага цэнтра псіхічнага здароўя, зміашчае іх лісты, згадвае непасрэдныя сустрэчы з хворымі. Практычная карысць такіх брашур не меншая за карысць мастацкага твора, хіба што няма гаворкі пра эстэтычае вымярэнне...

Толькі развіццё чалавека — павышэнне інтэлектуальных і эстэтычных запытаў, змена стаўлення да сферы этычнага — можа выратаваць высокую культуру, зноў зрабіць яе актуальнай. Але Валянцін Акудовіч не разглядае гэту перспектыву, бо масавы чалавек пакуль падаецца яму банальным, як нарвежскі селядзец.

## СЦВЕРДЗІЦЬ ВЕРНАСЦЬ?

Ад «татальнага крызісу культуры», абвешчанага філосафам, вельмі хочацца схавацца за сценамі Касталіі. Але толькі ўсведамленне значнасці ўласных каштоўнасцей для ўсяго грамадства можа жывіць беларускую культурную Правінцыю. Хіба напаміны пра нацыянальную



Малюнак Алесі Ісы.

культуру, пра класічны ідэал-трыадзінства — прыгожае, добрае, карыснае — не патрэбны сучаснаму чалавеку? Да таго ж беларусаў цікавіць не толькі пачварны маскульт, пра што сведчыць увага да мноства творчых праектаў. Але нацыянальнае і элітарнае сапраўды атаясамліваюцца ва ўяўленні большасці жыхароў краіны як «творчасць не для ўсіх». Гэты стэрэатып — галоўная праблема беларускай культуры.

Мультфільмы, навукова-папулярныя выданні, кнігі для дзяцей і падлеткаў, тэатральныя пастаноўкі, песні, дакументальнае кіно і літаратура — усё гэта можа быць пазбаўлена адмоўных рыс маскульту і існаваць у варыянце, цалкам прывабным для шырокай аўдыторыі. І, безумоўна, усё гэта можна ствараць на беларускай мове і ў 100% беларускім фармаце. Галоўнае, каб культурны прадукт паводле канцэпцыі, дызайну, стылю адпавядаў чаканням мэтавай аўдыторыі — і нават таго самага масавага спажыўца, ці, дакладней, нашых суседзяў, супрацоўнікаў, стрыечных братоў, пляменнікаў і даўніх сяброў, для якіх часам хочацца зрабіць нешта прыемнае і па-беларуску. Праекты, натхнёныя гэтай ідэяй, ёсць, але, па-першае, іх няшмат, па-другое, іх наяўнасць застаецца амаль незаўважанай у грамадстве. Адпаведна, другая галоўная праблема, вартая асобнай вялікай размовы, — гэта неразвітасць маркетынгу ў сферы культуры і адсутнасць сродкаў на прасоўванне культурнай прадукцыі.

Увага да жанраў, патэнцыйна прывабных для шырокай аўдыторыі, мае стаць клопатам беларускіх творцаў, бо толькі ў гэтым выпадку беларуская культура будзе рэальна запатрабаванай ў грамадстве. Дарэчы, магчымасць збліжэння масавага і элітарнага займае значнае месца ў канцэпцыі постмадэрнізму. Але ў звязку з Касталіяй згадваецца найперш галоўны прынцып экзістэнцыялізму: «рабі тое, што трэба, і хай будзе, што будзе». Верагодна, прызначэнне творцы — не адмяжоўвацца ад грамадства, а быць побач з людзьмі. Сцвярджаць надзею і вернасць насуперак абсурду — магчымасць не менш паважаная, чым згода на аўтсайдарства, што, зрэшты, засведчвае і сам Валянцін Акудовіч актуальнай і абсалютна чытэльнай кнігай.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Апошнія сустрэчы з Нілам Гілевічам



Ніл Сымонавіч Гілевіч. Мінск, 20.01.2016 г.

**Мы сустракаліся і гутарылі, адзін на адзін і ў сяброўскім коле, мноства разоў. Інакш і быць не магло: яго, у далёкім ужо 1960 годзе, запрасіў на кафедру беларускай літаратуры БДУ тагачасны яе загадчык прафесар Міхаіл Ларчанка.**

З 1963 года я стаў аспірантам, а з 1967-га — выкладчыкам той самай кафедры. Працавалі поплеч на філфаку чвэрць стагоддзя: ён чытаў студэнтам лекцыі па фалькларыстыцы, я — па тэорыі літаратуры. У памяці засталося многае, у прыватнасці — час фантастычнага з'яўлення надзвычай папулярнага ананімнага (тады) «Сказа пра Лысую гару». Мы, супрацоўнікі кафедры, прафесіяналы-літаратуразнаўцы, прыставалі да Ніла Сымонавіча нават не з пытаннем — са сцвярджэннем: «Вы ж аўтар паэмы!» А ён заўсёды аднекваўся ад аўтарства: «Ні ў якім разе! Я нават ні разу не быў на той Лысай гары…».

Так здарылася, што доўгі час мы і жылі па суседстве — у суседніх пад'ездах мінскага «пісьменніцкага» дома па вуліцы Карла Маркса, 36. Асабліва ж помняцца сустрэчы ў маім родным Ракаве: і на нашым з Тацянай Вячаславаўнай «вяселлі веку» ў лістападзе 1967 года, дзе Ніл Сымонавіч з жонкай Нінай Іванаўнай былі сярод самых ганаровых гасцей; і ў кампаніі з ракаўскімі суседзямі-краязнаўцамі, настаўнікамі Васілём і Леакадзіяй Налецкімі; з маімі колішнімі школьнымі настаўнікамі, а яго, Ніла Сымонавіча, студэнцкімі сябрамі — Зінаідай і Аляксеем Зяневічамі... Ды ці мала што можна ўспомніць! Хочацца, аднак, згадаць пра нашы апошнія (на вялікі жаль!) сустрэчы.

**20.01.2016.** Галоўная падзея таго дня для мяне — наведанне Ніла Сымонавіча. Дамовіліся па тэлефоне аб сустрэчы напярэдадні. Н. С. папрасіў прыйсці яшчэ да 14 гадзін: у гэты час сястра, якая даглядала яго, павінна была на нейкі час адысці, а яму самому дзверы адчыняць цяжкавата. Дамовіліся пра сустрэчу на 12 гадзін, ды непрадбачаныя клопаты затрымалі мяне. Н. С. маёй затрымкай, відавочна, быў незадаволены. Але падарунак — галоўная прычына майго візіту, кніжка «Наш гонар — Ракаў», якая выйшла да 550-годдзя гэтага славутага мястэчка, — яго адчувальна ўлагодзіў. Тут жа з прыемнасцю пачаў прыгадваць:

— У Ракаве я бываў яшчэ да знаёмства з Вамі. Дзякуючы Зяневічам. З Зінаідай мы былі аднакурснікі, а яе будучы муж Аляксей тады вучыўся на геаграфічным факультэце нашага ўніверсітэта. Яны мяне пазнаёмілі і з Налецкімі. Які цікавы чалавек быў Васіль Пятровіч! Гісторык, апантаны краязнавец... На жаль, яго ўжо няма. А як маецца Леакадзія Іванаўна? Яна ж мой аднагодак...

Калі сказаў, што Леакадзія Іванаўна цяпер ляжыць у абласным шпіталі з цяжкім двухбаковым запаленнем лёгкіх, шчыра паспачуваў ёй, але вестку ўспрыняў не трагічна. Што ж, у такім узросце ўсё бывае!

Стаў гартаць кнігу, спыняўся ледзь не на кожнай старонцы. Уважліва разглядаў здымкі. Вось ён сам, малады, з густой чупрынай, дастае вядро вады са студні, побач — Аляксей Зяневіч (1956 г.). А вось на заснежаным ракаўскім пляцы поплеч з выдатнымі ўкраінскімі пісьменнікамі Дмытром Палычкам і Раманам Лубкіўскім (2003 г.). Дагартаўся да свайго колішняга верша «Быль пра Ракаўскую бярозу». Быль пра тую прыгажуню-бярозу, што расла каля хаты, дзе жылі Зяневічы *(«Была яна развесістай, / Высокай і кунатай. / Заўжды шумела весела / Ля вуліцы над хатай»)*, і якую па загадзе мясцовага старшыні калгаса бязлітасна спілавалі *(«Матэрыял спатрэбіўся / На дэрцы і на білы»)*.

— Пра бярозу мне расказала Зінаіда Аляксееўна... Я верш тады ў «Вожыку» надрукаваў. Але ў свой 23-томны Збор твораў яго не ўключыў.

Стаў чытаць верш, разглядаць суседні здымак «з вядром вады».

— Была яна развесістай... Заўжды шумела весела… Добрая рыфма: развесістай — весела! Ці не так?.. А паглядзіце, якія кучары былі ў мяне! А што цяпер...

Прыгледзіўся: ускалмачаныя валасы, як і бровы, сівыя-сівыя, але галава не палысела, як у многіх у такім узросце. Твар у Н. С. бледны, стомлены. Ды вочы жвавыя, з аганьком.




Дарчы надпіс В. П. Рагойшу. 4.03.2016 г.

— А дзе Вы ўзялі гэты мой верш — «На адкрыццё Дома творчасці»? Я яго таксама не ўключыў у 23-томнік, а мог бы, калі б ведаў...

Кажу, што не памятаю, адкуль узяў, але калісьці апублікаваў у сваёй кнізе «Там, дзе бруіцца Іслач» (1991). Магчыма, перапісаў яго, як і некаторыя іншыя запісы, з «Кнігі водгукаў» таго ж Дома творчасці пісьменнікаў, што пабудавалі каля Ракава на сродкі ўсесаюзнага Літфонду і на адкрыцці якога 26 лістапада 1986 г. Н. С. і прачытаў свой верш з пажаданнем-наказам:

*Хай шчыруюць тут, удумна мыслячы,*
*Творцы ўсіх народаў і зямель.*
*Дык у добры й доўгі шлях па Іслачы,*
*Блаславёны музай карабель!*

Н. С. як першы сакратар праўлення СП БССР афіцыйна адпраўляў у плаванне той «карабель», «хрысціў» яго імем Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які некалі жыў і працаваў у зусім блізкай адтуль Люцынцы. Але пазней той «карабель» не ўратавалі…

Загаварылі пра ўніверсітэцкія справы. Згадаў пра колішні наш прыход дружнай філфакаўскай дэлегацыяй на чале з дэканам І. С. Роўдам да яго на кватэру. Тады цёплымі словамі, народнымі песнямі, падарункамі мы віталі яго з 80-годдзем. Добра адгукнуўся пра супрацоўнікаў кафедры тэорыі літаратуры, яе фалькларыстаў, у прыватнасці пра дацэнта Р. М. Кавалёву, папрасіў перадаць ім прывітанне. Затое рэзка негатыўна выказаўся пра аднаго філфакаўскага прафесара:

— Я зусім змяніў пра яго думку. Гэта ж трэба, такім беларусафобам аказаўся! Можа, і быў такім, толькі затаіўся да часу...

Кніжка перагорнута да апошняй старонкі. Кажу, каб не краязнаўчая шматтыражка «Ракаўскі шлях», якую я са сваёй сям'ёй выдаваў на працягу васьмі гадоў (2000 — 2008 гг.), то і гэтай кніжкі, хутчэй за ўсё, не было б: за невялікім выключэннем, яна ўкладзена мной з матэрыялаў таго ж «Ракаўскага шляху».

— Ну ж Вы і малайчына! Вось гэта патрыятызм! Калі б хаця не пра мястэчка, а толькі пра кожны раённы цэнтр Беларусі напісаць такую кніжку, колькі цікавага і карыснага можна было б адкрыць! Працуйце і далей, памагай Вам Бог!

Сустрэча заканчваецца. На развітанне прашу дазволу сфатаграфаваць Н. С. Ахвотна згаджаецца. Фатаграфуецца, трымаючы ў руцэ кніжку пра Ракаў. Падыходзіць сястра. Прапануе сфатаграфаваць нас удвух. Абяцаю зрабіць здымкі і прынесці.

— Прыносьце, буду рады атрымаць. Тады, магчыма, ужо і выйдзе з друку кніжка пра мяне. З прыемнасцю падару яе Вам. Але пакуль што нават не скажу, хто яе аўтар...

**4.03.2016.** Прайшло крыху больш за месяц, але Н. С. знешне адчувальна паблажэў. Гэта відаць і па твары, і па жэстах. Пры сустрэчы ўжо не зрабіў спробу прыўзняцца з канапы, каб павітацца за руку. Перад ім — хадункі (чаго мінулага разу не было). Але здымкі разглядае зацікаўлена, хваліць. У адказ з адчувальнай радасцю працягвае мне невялікую кніжку ў цвёрдых вокладках — «Ніл Гілевіч: Маштабнасць таленту і веліч асобы». Аўтар — Тамара Нуждзіна. Добра ведаю яе: кандыдат філалагічных навук, дацэнт Мазырскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Івана Шамякіна, таленавіты і плённы літаратуразнавец. Колішняя студэнтка і аспірантка нашага філфака, вырасла пад навуковым крылом прафесара Дзмітрыя Бугаёва. Дарэчы, мы, філфакаўцы, сустрэлі яе ў кватэры Н. С., калі прыходзілі віншаваць яго з 80-годдзем. Падумалася: вунь калі яна ўжо збірала матэрыял для сваёй кніжкі!

Н. С. бярэ ручку, падпісвае кнігу: «Дарагі Вячаслаў Пятровіч, кніжачка не мая, але дачыненне маю. Дзялюся з Вамі гэтай радасцю. Шчасця Вам! Ад сэрца — Ніл Гілевіч. 4.3.2016 г.» І вусна дадае: «Можа, пагартаеце...».

Забягаючы наперад, скажу: не толькі пагартаў, але і ўважліва прачытаў. Кніжка, якую склалі каля дзесятка аналітычных артыкулаў, прасякнута шчырай любоўю да творчасці і асобы народнага паэта Беларусі. Асабліва глыбока і арыгінальна даследаваны фалькларызм самога творчага мыслення Ніла Гілевіча, што ў вялікай ступені абумовіў і маштабнасць таленту, і веліч асобы. Цалкам згодны з высокай ацэнкай гэтага даследавання, дадзенай у рэцэнзіі «ЛіМа» «Як запаліць ідэяй Бацькаўшчыны» («ЛіМ», 8.4.2016). Толькі хочацца рассеяць сумненне крытыка адносна «выдання, якое, магчыма, паспеў патрымаць у руках сам паэт». Не «магчыма», а сапраўды патрымаў! І, несумненна, пазнаёміўся з ім. І быў рады гэтаму з'яўленню.

Пры той стрэчы я прынёс і зачытаў толькі што атрыманы мной ліст ад Дмытра Паўлычкі, славутага ўкраінскага паэта, Героя Украіны, актыўнага прапагандыста беларускага паэтычнага слова. Калі дайшоў да фразы: *«Я хотів би ще бодай один раз побути у Тебе, в родині, в Ракові, згадати мого єдиного живого з великих поетів друга в Мінську Ніла Гілевича і поклонитися йому»*, — вочы ў Н. С. заўважна павільгатнелі, і ён папрасіў: «Занатуйце, калі ласка, мне адрас Дмытра Васільевіча. Я хачу паслаць яму ліст. У мяне адрас недзе ёсць, але цяпер, мабыць, не адшукаю».

Напісаць той ліст Ніл Сымонавіч, на жаль, не змог, не паспеў…

**1.04.2016.** І самая апошняя, самая нечакана-горкая сустрэча (адначасова — і расстанне) з апошнім народным паэтам Беларусі (па ганаровым званні). З чалавекам, які ў труне, быццам у лодцы Харона, па моры кветак адплываў у іншасвет. Адплываў у мінскім Саборы Пятра і Паўла па вуліцы Ракаўскай, 4, дзе праходзіла паніхіда, на Кальварыйскіх могілках, каб спачыць вечным сном побач са сваёй любай Нінай Іванаўнай. Твар у нябожчыка спакойна-задаволены, нечакана памаладзелы, без адзінай зморшчкі. Што да апошняга — зразумела, папрацавалі грымёры. А што да першага? Здалося, здзейснілася мара ўсяго жыцця Ніла Сымонавіча: мы «дайшлі да Беларусі». Па-беларуску загаварылі (у словах спачування, развітання) беларускія чыноўнікі, царкоўныя іерархі. Яго ная смерць змагла нацыянальна з'яднаць людзей рознага сацыяльнага статусу, моўна-культурнай арыентацыі, розных па светаразуменні і светапоглядзе…

**Вячаслаў РАГОЙША**

# «Прыгожыць жыццё...»

## Калі раман каштуе манаграфіі

**Значныя для нас людзі заўсёды застаюцца ў памяці цікавымі сустрэчамі і размовамі, адметнымі якасцямі, карыснымі парадамі і трапнымі думкамі. Алега Лойку ведалі многія даследчыкі і творцы — і, трэба думаць, згадваюць добрым словам не толькі з юбілейных нагод. Літаратуразнаўца, пісьменнік, выкладчык, кіраўнік студэнцкага літаб'яднання «Узлёт»… Вядома, пісьменнікі застаюцца з нашчадкамі старонкамі сваіх кніг — у Алега Антонавіча іх было таксама нямала.**

«Алег Лойка спалучаў уласцівасці выдатнага даследчыка літаратуры, а значыць, чалавека рацыянальнага, з паэтам-лірыкам, у якога пераважна задзейнічана эмацыянальная сфера», адзначае Тацццяна Шамякіна. Здзіўляе ўніверсальнасць таленту: ён пісаў манаграфіі, вершы, крытычныя артыкулы, кнігі для дзяцей… Яго раманы-эсэ «Як агонь, як вада» (1984) і «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» (1990) дзякуючы багатай фактналогіі замяняюць дзясяткі навуковых прац і ўспамінаў. Гэтыя глабальныя творы — сведчанне выключнай эрудыцыі, дасведчанасці і пісьменніцкага майстэрства. Ці варта нагадваць, што раманы-эсэ прысвечаны ключавым этапам гісторыі беларускага пісьменства? Дзейнасць Францыска Скарыны — пачатак славянскага кнігадрукавання і адна з пазнак Новага часу, «нашаніўскі перыяд» — час фарміравання традыцый сучаснай айчыннай літаратуры. Буйным планам абмаляваныя галоўныя героі твораў — узнёслыя і велічныя, яны дакладна ўсведамляюць значнасць сваёй справы. Сур'ёзна ставіцца аўтар і да ўзнаўлення эпохі: вялікая ўвага прысвечана другасным персанажам, грамадскім праблемам і ладу жыцця.

З'яўленню рамана-эсэ «Як агонь, як вада», прысвечанага Янку Купалу, папярэднічалі навуковыя росшукі: даследаванні па творчасці Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, беларускай паэзіі XX стагоддзя. Пералік літаратуразнаўцаў, якія звярталіся да мастацкіх здабыткаў нашаніўцаў, ужо ў 1970-я гады выглядаў вельмі прыстойна. Здавалася б, героямі раманаў-эсэ маглі стаць і іншыя творцы — напрыклад, Адам Бабарэка, якога Алег Лойка згадваў як «аднаго з лепшых беларускіх крытыкаў 1920-х гадоў». Калі б даследчыкі на некалькі дзесяцігоддзяў раней захапіліся творчасцю сяброў літаб'яднання «Узвышша», думаецца, пашыраныя ўяўленні пра нацыянальны літаратурны канон былі б сёння крыху іншымі.

Умоўная схема рассялення аўтараў на літаратурным Парнасе заўсёды можа трапіць пад сумнеў. «Пушкін напісаў семсот лірычных вершаў, з іх хрэстаматыйных, шэдэўральных — не больш чатырох дзясяткаў», — разважаў Алег Лойка ў артыкуле «Слова даецца нялёгка». Сорак добрых вершаў можна сабраць як з паэтычных зборнікаў Пімена Панчанкі, Аркадзя Куляшова, Ніла Гілевіча, так і з кніг Алега Лойкі, яго таленавітых сяброў ці вучняў-узлётаўцаў.

Вядома, ладная частка значных твораў Алега Лойкі — вершы пра Беларусь. Яе мінулае — гэта вогнішчы першабытнай стаянкі ў Юравічах, Іван Грозны, які замаўляе вырабіць залатую чашу з полацкага скарба, Кастусь Каліноўскі ля Сынкавіцкай царквы на шляху ў родны для паэта горад Слонім... Запамінальныя сучасныя героі — дзядзька Міхась і цётка Антоля — класічныя вобразы сялян-беларусаў, якія жывуць нетаропка і дбаюць пра бульбу для сыноў.

*Пагдядаю на дзядзьку ізноў, —*
*Не змяніўся ні ён, ані цётка,*
*Ці то век мой быў гэткі*
*кароткі,*
*Ці яны — вечнасць нейкіх*
*асноў?..*



*І нішто мо нязменна наогул*
*Тут, дзе вечныя вокал палі,*
*Дзе знікае любая трывога,*
*Што ты ўвогуле знікнеш*
*калісь?..*

Алег Лойка, як і належыць савецкаму пісьменніку, нагадваў чытачам, што жыццё павінна быць прыгожым і добрым. Для сучасных паэтаў гэта задача далёка не першая, хаця для культуры застаецца, безумоўна, значнай. Алег Антонавіч адчуваў меру з ідэалізацыяй: неаднойчы разважаў «ці так?» і прапаноўваў чытачам часцей «прыгожыць жыццё» святам ці песняй. Нямала ў яго радасных, бадзёрых, сур'ёзных вершаў. Выдатны ўзор беларускай савецкай паэзіі — вершы «На паліграфкамбінаце», дзе сцвярджаецца веліч кнігі і працы, «Перапіска», адметны вобразам захопленага і мужнага працаўніка.

Зборнікі вершаў можна гартаць не толькі «з прыцэлам на шэдэўры», але і як цікавы фотаальбом, шукаючы нечаканую тэму, адмысловы ракурс, яркае ўражанне — каб лепш зразумець мінулае, светапогляд старэйшага пакалення. Вось Алег Лойка разважае пра вобраз мора ў народнай песні, вось здзіўляецца сексізму ў французскай рэкламе, вось радуецца разам са спартсменам-люксембуржцам, бо гімн амаль невядомай краіны гучыць для тысячы гледачоў. У крытычных артыкулах паэт падкрэсліваў, што самазасярожанасць — небяспечная якасць для творцы. Адпаведна, яго ўласныя вершы — не паэтычнае сэлфі, а расповед пра блізкіх і сваякоў, пра людзей, з якімі давялося жыць у адным горадзе, краіне, свеце. Разглядаць такі «фотаальбом» не менш карысна, чым на кожнай старонцы паглыбляцца ў асабістыя перажыванні аўтара.

Адна з адметных кніг у творчай спадчыне Алега Лойкі — «Займальная літаратура», выдадзеная пасля смерці пісьменніка ў 2009 годзе. Каб прывабіць маладое пакаленне, аўтар у форме свабодных размоў звяртаўся да гісторыі сусветнай літаратуры, згадваў эпізоды з жыцця калег, вучыў аналізаваць і ацэньваць твор, распавядаў пра асаблівасці пісьменніцкай кухні. Алег Лойка ўзняў нямала цікавых і вострых пытанняў, на якія кожны літаратар шукае свае адказы. Мастацкая творчасць, літаратуразнаўства, крытыка — заўсёды размова з папярэднікамі, развіццё цікавых ідэй, абгрунтаванне і супастаўленне розных творчых шляхоў. У гэтым дыялогу ўдзельнічаюць розныя пакаленні — і голас Алега Лойкі працягвае гучаць выразна.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Лірычнае прадзіва Зінаіды Дудзюк

**«Юбілейная» кніга ў жыцці пісьменніка звычайна асаблівая. Гэта вынік працы за пэўны этап творчасці. Такі зборнік выбранага — «Прадзіва» — выйшаў напрыканцы мінулага года, калі Зінаіда Дудзюк адзначала 65-годдзе.**

Час сцірае дэталі мінулага, перадаючы забыццю другараднае, але пры гэтым вылучае галоўнае ў жыцці чалавека. Робіць такое падсумаванне і паэтэса. У яе выбранае патрапілі асобныя творы з паэтычных зборнікаў «Праводзіны птушак» (1983), «Абрысы лета» (1988), «Так і не» (1993), «Табе» (2000), «Падданыя кахання» (2003), «Дарунак» (2010); паэмы «Ганна Кобрынская» (1993), « З даверам» (1988), а таксама вершы апошніх гадоў. Назвы зборнікаў адпавядаюць назвам частак, з якіх складаецца кніга выбранага. Што да новых твораў, яны пазначаныя як «Пераклад з невымоўнага».

Кожная частка зборніка прадстаўляе пэўны этап жыцця Зінаіды Дудзюк пачынаючы з 1967 года. Пад адной вокладкай — творы маладосці і сталасці. Цікавы і смелы ход з боку пісьменніцы — змешчаныя перад кожнай часткай фотакарткі паэтэсы, якія лішні раз паказваюць сталенне аўтара не толькі як творцы, але і жанчыны. Інакш кажучы, раскрыцца перад чытачом ва ўсім і прызнацца:

*Так доўга чакаць немагчыма,*
*Я толькі слабая жанчына,*
*У гэтым Сусвеце вечным*
*Блукаю па Шляху Млечным.*
*Сівеюць мае аблокі…*

Найперш гэтай адкрытасцю і прымаюць творы Зінаіды Дудзюк: тонкія адчуванні прыродных станаў, натхнёнае імкненне чалавека да шчасця, кахання, жыцця; засяроджаная ўвага на самых балючых праблемах сучаснасці, сярод якіх — ваенная «спадчына» і Чарнобыль. Яшчэ да трагедыі яна папярэджвала ў вершы «Пустэльнае воблака» (1983):

*…Ляцела трывога*
*краінамі,*
*Спакой звычайны*
*абвергла:*
*«Радыяцыя!*
*Будзьце пільныя,*
*Насіце лічыльнікі Гейгера»*



Тэмы класічныя, і піша Зінаіда Дудзюк пра звычайнае і надзённае, але пры гэтым укладвае ў вершы столькі роздуму, што лірыка робіцца для чытача адкрыццём. Асаблівай краляльнасцю споўненыя творы 1984 — 1988 гадоў, прысвечаныя малой радзіме паэткі — Браслаўшчыне («Над Дняпром», «Дзед», «З маленства сілу слова знаю», «Дзедава чысціна», «Маленства», « Са злом ваюю», «Пінскія ткалі»).

Успаміны пра шчаслівае дзяцінства цесна звязаныя з успамінамі пра дзеда. Яго светлы вобраз многія гады жыве ў памяці паэтэсы: «*Пасадзіць мяне на калені, / Усмешкаю высушыць слёзкі: / «Ах ты, мая маленькая…» / А вочы — блакіт днепроўскі…*». Вобраз Дняпра, дзічкі, дзедавай хаты — сімвалы маленства, якія ўбіраюць і любоў, і смутак, і боль страты. Браслаўшчына застаецца цэнтрам паэтычнай геаграфіі аўтара:

*…Адсюль Радзіма, нібы на далоні:*
*Яе шляхоў і рэчак паясы,*
*Яе палі, дзе родзіць*
*лён ды жыта,*
*Дзе есць іржа вайны*
*мінулай друз.*
*Тут свет наскрозь*
*прасякнуты*
*блакітам*
*І цеплынёй вачэй*
*людскіх і рук.*
*Усе мае набыткі тут*
*і страты,*
*І колькі б ні прыйшлося*
*мне пражыць,*
*Заўсёды па-над*
*дзедаваю хатай*
*Маёй любові ластаўкай*
*кружыць.*

(«Над Дняпром»)

Зінаіда Дудзюк скіроўвае ўвагу на чалавека з глыбокімі перажываннямі, стваральніка духоўных каштоўнасцей. Неабыякавасць да яго лёсу, сэнсу жыцця, спачуванне да яго страт — і ў той жа час глыбокі роздум над уласным жыццём і жыццём сучаснікаў вылучаюць многія вершы («Паштарка», «Сад», «Балада дабрыні», «Балада пра маці») і паэмы «Ганна Кобрынская», «З даверам». Вершы сюжэтныя, разлічаныя на суперажыванне чытача. Напрыклад, самотны лёс паштаркі, якой вайна перашкодзіла наладзіць асабістае жыццё, «забрала жаніха». Ці — маці, якую вядуць на расстрэл «…са скруткам на руках, маленькім сынам». Адзінае, пра што думае жанчына ў апошнія хвіліны жыцця:

*Як зберагчы, агарадзіць дзіця?*
*[…]*
*І раптам, нібы вырвала з грудзей,*
*Як крылы птушка, выпрастала рукі*
*І палажыла на бялюткі снег*
*Той найдарожшы, найраднейшы*
*скрутак.*

(«Балада пра маці»)

Асаблівае аўтарскае суперажыванне мы бачым да галоўнай гераіні аднайменнай паэмы Ганны Кобрынскай. На сямнаццаць гадоў лёс развёў яе з мужам — і назаўжды. Князь Бельскі, муж Ганны, абірае змагарства за Радзіму, за жыццё народа на зямлі продкаў, ахвяраючы каханнем. У паэме “З даверам» пісьменніцу хвалюе згуба нацыянальных набыткаў, згуба чалавека як асобы.

Тэма кахання ўвогуле шырока прадстаўленая ў зборніку. Паэзія любові Зінаіды Дудзюк складаецца з мазаікі эмоцый: смутак, роспач, радасць, асалода, узнёсласць, спадзяванні... Паэтэса ўпэўненая, што толькі каханне дае магчымасць шчаслівага жыцця.

Яе хвалюе не толькі сучаснасць, але і мінулае, і будучыня Радзімы. Адсюль столькі твораў патрыятычнага пафасу. Цікава, што верш «Да Айчыны» настраёва нагадвае верш Анатоля Сыса «Пацір»:

*Айчына, стаю прад табою,*
*Хілю галаву ад журбы.*
*Шмат хто табе кляўся ў любові,*
*Ды мала хто верна любіў…*

«Да Айчыны»

Па ўсім бачна: назва зборніка невыпадковая. Выбраныя творы складаюць шматгадовае, тонкае прадзіва, са сваім самабытным узорам, сваёй задумкай. І праца гэтая, калі верыць аўтарцы, не скончаная:

*…Я буду жыць і сёння, і пасля,*
*Пакуль ёсць неба, дзе магу схавацца*
*За той непрадказальны даляглядд,*
*Які мне ўдзячна расчыняе праца…*

**Наталля ШЛЯЖКА**

Кастусь ЦЫБУЛЬСКІ



**Шасцідзесяцігадовы юбілей заўтра адзначае сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт-песеннік Кастусь Цыбульскі. Увазе чытачоў штотыднёвіка — нізка вершаў юбіляра.**

## Сябрам

*Пластуюцца гады, нібы стагі,*
*А ў тых стагах мурожная атава,*
*І наша маладосць, і наша слава*
*Кладуцца у стажок тугі.*

*У тым стажку маленства туманы,*
*Світальныя і росныя пракосы.*
*І салаўя вясёлы адгалосак,*
*І водар маладосці і вясны.*

*Няхай пабеліць скроні сівізна,*
*І часам лёс ашчэрыцца сурова.*
*Я спадзяюся, што пракосаў новых*
*Жыццё ячшэ падорыць нам спаўна.*

*Няхай каса не тупіцца тады*
*І будзе сенакосная пагода,*
*Няхай удача кружыць карагодам*
*І Бог аберагае ад бяды.*

*Жадаю ўсім шчаслівае пары,*
*У сэрцы, на дарозе, у кватэры…*
*Да ста гадоў хай стукаюцца ў дзверы*
*Здароўе,*
*шчасце,*
*верныя сябры.*

## Мая радня

### I

*Мая радня не стукае мне ў дзверы,*
*Не піша пісем, тэлеграм не шле.*
*Шкадуе мо паштовак ці паперы,*
*А можа, спраў багата на сяле?*

*Мая радня, калі успыхнуць зоры,*
*Калі прыціхнуць сонныя двары,*
*Са мной у снах да раніцы гаворыць,*
*З раднёй не грэх і ў сне пагаварыць.*

### II

*…На покуці, дзе абразы святыя,*
*Дзе ручнікі прыгожыя здавён,*
*Сам дзядзька Грыша ў рукі трапяткія*
*Бярэ бывалы свой акардэон.*

*І песня нараджаецца патроху,*
*Наладжваюцца ў хоры галасы.*
*Разлівіста зацягваюць Алёхін*
*І Толя з Антанінаю з Лясных.*

*І Славусь захмялеўшы, са слязою,*
*І Мечык з Вандай голасам другім*
*Спяваюць разам: «Ярам, даліною…»,*
*Вячэрні спеў мінае берагі.*

*А я, малы, дзіўлюся і спрабую*
*З сястрою Зінай песню падхапіць.*

*Аж дзед Мікіта круціць галавою,*
*Не можа самакрутку падпаліць.*

*…Гудзе застолле і ліе застолле,*
*Сівуху у кілішкі да краёў.*
*І дзядзька Жэнік, і з Маросяк Коля,*
*І Мішка з Жэнькам, і Іван з Ваўкоў.*

*І франтавік-гаёвы — дзядзька Ванька,*
*Што ад Карусі толькі надышоў.*
*За стол садзіцца, і ўзлятаюць шклянкі*
*Пад вечнае святое: «Будзь здароў!».*

*А ў небе месяц туліцца да хмары,*
*Ліе сваё адвечнае святло.*
*І нехта з ноччу гэтаю на пару*
*Заблудзіцца надоўга за сялом…*

### III

*Усё я помню. Грэблю і балота,*
*У Мехаве тугую сенажаць.*
*І з кураслепам жоўценькую лотаць,*
*Ў Казелаве і га́дзін, і вужак.*

*Усё мне блізка, да драбніц знаёма.*
*І Сонькін вір, і Чорны руч, і лес.*
*І сажалка з крынічкай каля дома,*
*І ментузы ў начоўках, на стале.*

*Святое месца. Край дубоў і вербаў,*
*За Амшарою табуны дзікоў.*
*Вунь Коля Янукоў ідзе са стрэльбай,*
*І Петрусіха з кошыкам грыбоў…*

*…Мая радня, да болю дарагая,*
*І тых, хто спіць на могілках даўно,*
*Я вас усіх пяшчотна абдымаю,*
*І сніцца сон, як дзіўнае кіно.*

## Бацькоўскі зруб

**Песня**

*Яшчэ жыве бацькоўскі зруб,*
*Смалой сасновай пахнуць сцены.*
*Спяваюць пеўні у пару,*
*Гукаюць раніцу нязменна.*

*Яшчэ матуля у акне*
*Чакае сынаву усмешку,*
*Яшчэ ад бэраў і ранет*
*І зоркі пахнуць, і узмежкі.*

**Прыпеў:**

*Жывы агонь бацькоўскага жытла,*
*І хаты уздыхаюць камінамі.*
*Як з хлопцамі дзяўчаты ля сяла,*
*Бярозкі абдымаюцца з дубамі.*

*Яшчэ вада у студні ёсць,*
*Яшчэ сябрые комін з дымам.*
*Я тут, прызнаюся, не госць,*
*Я вечны парастак Радзімы.*

*Яшчэ жыве бацькоўскі зруб,*
*Смалой сасновай пахнуць сцены.*
*Спяваюць пеўні у пару,*
*Гукаюць раніцу нязменна.*



Ірына ДАНІК



## Чарнобыль

*Чорная быль… Недзе праўдай*
*Вырас на станцыі ціск…*
*Зорка! Паслухай, не падай!*
*Толькі зляцела ўніз…*
*І пакацілася рэха,*
*Што нам Чарнобыль паслаў…*
*Лёс раскалоўся арэхам:*
*Час да яго і пасля.*
*Бусел жа ведаў пра тое,*
*Ды закружыўся, дзе быў…*
*Кліча гняздзечка святое —*
*Гэтак Радзіму любіў…*

## Перасяленцы

*Узвялі шыкоўныя дамы,*
*А яны не захацелі шчасця…*
*«Не прывыкнем на чужыне мы!*
*Вось і ўсё. Лепш мёртвымі застацца».*
*І тайком вярнуліся сюды —*
*Жыць у гэтай зоне назаўсёды…*
*Падалі Чарнобыля дажджы*
*І цвілі шыпшынамі усходы.*
*Што ім тыя чорныя грыбы,*
*Калі тут ляжаць усе з радзіны…*
*Мы — адгэтуль… Зернейка сяўбы…*
*Нашы тут маленькія радзімы.*
*І нішто іх болей не бярэ —*
*Ні закон, ні радыяцый пашча…*
*Бо шчасліва сядуць ля двароў*
*І сустрэнуць сваё заўтра нашча.*
*Толькі ціха моляцца заўжды*
*За жывых, што з'ехалі далёка.*
*А магілы продкаў і сляды*
*Будуць аж да смерці іх галёкаць…*

## Кнігі Памяці

*Напішуцца некалі кнігі*
*Пра тых, хто навекі пайшоў*
*У свет, дзе стуляюцца крыгі*
*Халоднай, магутнай душой.*
*Жылі яны ўсе, як жылося…*
*Не думалі, мабыць, пра лёс…*
*І толькі ляглі, як калоссе,*
*Пад ціхую музыку слёз.*
*…Калі прылятае імгненне*
*Навечна сысці у нябыт —*
*Яны, нібы ўсё пакаленне,*
*Пад чорнай сімфоніяй плыт…*
*Але як плыве гарманічна*
*Той лёс чалавечы у нас,*
*Дзе зоркай Палын сімвалічна*
*Скаціўся абвуглены час…*

## Горкая вада

*Хмара плыла на Палессе*
*І разлілася бядой…*
*Недзе вясёлкаю песень*
*Тужыць у сэрцах садоў.*
*І пацяклі па лагчынах*
*Горкай вады ручайкі…*
*Толькі не здасца Айчына —*
*Нораў у продкаў такі!*

## А жыццю прадаўжацца

*Гомельшчына… Болей дасталося*
*Гэтым вёскам, хатам, гарадам,*
*Дзе чарнела спелае калоссе,*
*Застывала мёртвая вада.*
*Не спявалі птушкі на бярозах*
*І сцякаў дарэмна цёплы сок,*
*Нібы Беларусі маёй слёзы,*
*Што загінуў сонечны куток.*
*Колькі хат пакінута навекі,*
*Колькі людзям выпала бяды…*
*Нават вод празрыстыя павекі*
*Чорнымі зрабіліся тады.*
*Дваццаць першы век над гэтым краем…*
*Зняе сонца нашага жыцця.*
*Будучыню сёння мы ствараем,*
*Хоць Чарнобыль кожнага працяў…*
*Паглядзіце: жыта зноў красуе,*
*Дзеці ў школу весела ідуць.*
*Гэта вельмі вобласці пасуе,*
*Бо тут людзі моцныя жывуць.*

## Дэбют

Дзмітрый ЮРТАЕЎ



***Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Польшчы (г. Борне-Сулінава). Потым сям'я жыла ў Ленінградзе, затым пераехала ў Мінск. Скончыў Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт (2000). Паэт, празаік, публіцыст, мастак, дызайнер.***

## Далоні

*Няголеным шчакою*
*да далоняў*
*Тваіх прыльну, як будзе*
*цяжка мне.*
*Даруй усё ў пяшчотным*
*іх палоне*
*І дай спакою,*
*быццам бы ўва сне.*

*Даруй жа мне, што ўсё*
*не так грунтоўна.*
*Мае пачуцці бізіся*
*як шкло…*
*Далоняў не адводзіш*
*ты чароўных,*
*І мне здаецца: з цемры*
*лье святло.*

*Святло… Ды і ў палоне*
*гэтым, мабыць,*
*Дакладна расплумачыць*
*сэнс жыццё...*
*Цяпло далоняў пабуджае*
*марыць*
*Пра вечнае кахання*
*адкрыццё.*

## І без прабачэння, і без развітання...

*У азмрочаны твар*
*моцна хлешча мне дождж,*
*і вецер ірве*
*парасон на анучы,*
*лупцуючы брумямі*
*ўпоперак і ўздоўж,*
*і жорстка, і рэзка,*
*і вельмі балюча…*
*…і вельмі балюча*
*зноў вусны кусаць.*
*Спазніўся ў жыцці*
*да цябе на каханне.*
*Аднойчы вось так*
*адыду — што й*
*казаць —*
*і без прабачэння,*
*і без развітання…*

## Nostalgie

*Цягне ў Мінск*
*да Траецкага*
*зноў на спатканне…*
*Слухаць музыку горада,*
*танчыць з рознымі*
*мінакамі,*
*маляваць непаўторныя*
*віды-выявы,*
*дыхаць вершамі*
*з пахам вячэрняе кавы,*
*блукаць павольна*
*па вулачках вузкіх*
*і размаўляць*
*на найлепшай з моў —*
*беларускай…*

## Вяртанне ў родны горад

*Мяне, непазнанага,*
*горад абдыме пяшчотай*
*вуліц ласкавых,*
*агнямі вячэрніх дамоў.*
*Ветрам на вушка*
*прашэпча:*
*«Адкуль ты і*
*хто ты?», —*
*а я прамаўчу…*
*Ён усё зразумее без слоў.*



Іван КАНАНОВІЧ

# Плакалі немцы

*Апавяданне*

*Паехалі, паехалі ў Нясвіж,*
*Дзе высь нябёсаў і завулкаў ціш…*

**Кастусь Жук**

Чацвёра даўніх сяброў-раўеснікаў штогод сустракаюцца ў дзень вызвалення роднага горада ад чужынцаў. Неразлучная чацвёрка, як яны сябе ахрысцілі, — Янка Кандратовіч, Міхась Карнялюк, Ігнат Язерскі і Аксеня Ахлопская — абцяжараныя ўзростам, жыццёвымі клопатамі, але маладыя душой.

Вальяжна ўсаджваюцца на лаўку ў цяністым скверы, дзе падчас вайны сталі іх драўляныя хаты, і вядуць задушэўную гамонку. Ад былых сядзіб не засталося і знака, калі не лічыць вялікай, як стадола, хаты іх суседа, дзеда Грышы, адштукаванай на сучасны лад. Вакол квітнеюць ружы, флоксы, астры, язмін, дзеці гушкаюцца на арэлях і будуюць замкі ў пясочніцах.

Аксеня падыходзіць да арэляў і, як калісь у дзяцінстве, прытворна-капрызлівым галаском загадвае:

— Гэй, дзяды, пагушкайце, успомніце дзяцінства!

— Адгушкалі сваё, — спрабуе пярэчыць сівой камандзірцы Карнялюк і незласліва абураецца: — Хопіць нас муштраваць як малых. З тых часоў твой павучальны галасок у вушах трымціць.

— Я наступнага разу на сустрэчу вашых любімых палавін запрашу — будзеце лагодныя і пушыстыя, — пяшчотным галаском прыгразіла, пасміхаючыся, жанчына…

Пакуль Міхась Карнялюк гайдаў Аксеню, з лаўкі няспешна выпрастаўся двухметровы Ігнат Язерскі:

— Вы, сябры-экскурсанты, маршрут вызначайце самі, а я — у замак.

— Што ты там згубіў? — запратэставала Аксеня.

— Не згубіў, а знайшоў. Адзін бізнесмен заказаў праект фазэнды па ўзоры нашага замка. Заключылі дамову на адпаведную суму. Абяцанае трэба выконваць.

Аксеня запляскала ў ладоні:

— Нарэшце мы з Ігнацікам дасягнём першай прыступкі да Алімпа багацеяў.

Яе жарт дружным смехам падтрымалі астатнія. Ігнат падаўся ў радзівілаўскае гняздо.

— Толькі пацыху, не скачы, — папярэдзіў Янка.

— Цябе, Кандратовіч, магу і на руках панасіць, — усміхнулася камандзірка і ўзмахам загарэлай паўнаватай рукі паказала кірунак, — пачнём з базарнай плошчы.

***

Падчас акупацыі плошча была базарам. З навакольных вёсак сяляне прывозілі сваю прадукцыю, каб на выручаныя грошы набыць соль, сахарын і мыла. Мы прапіхваліся між вазоў, загружаных вясковымі прысмакамі — яблыкамі, грушамі, морквай, капустай, буракамі ды іншым багаццем. Глыталі слінкі і енчылі жабрацкімі галасамі. Шчодрыя нешта давалі, скупыя адмахваліся пугай. А вось для Аксені вясковыя дзядзькі нічога не шкадавалі. Ад такой увагі да сяброўкі нас разбірала зайздрасць. Каб уціхамірыць спакусу, непрыкметна падкрадваліся, кралі сёе-тое, хавалі за пазуху, а ласаваліся дома.

Аднаго разу нейкі скупярдзяй уцікаваў нас і нацкаваў паліцыянта. Той балюча надраў вушы. Пасля мы колькі часу сядзелі дома і гулялі з Аксеняй у лялькі. Занятак хутка абрыдзеў, і тады зноў падаліся да гаманкіх нябрытых дзядзькоў па прысмакі…

***

— Пра што задумаліся? — пытаецца пяшчотным голасам Аксеня.

— Акурат, сяброўка, у яблычак трапіла, — адказвае Кандратовіч, сцішваючы хаду. — Згадаліся даўнія базары на гэтай плошчы, дзе мы радаваліся вясковым прысмакам: у крамах жа такога не было! Ды і табе тады шанцавала больш, чым нам. Не скажаш, чаму?

— Скажу. У мяне душа добрая, а вы ўтрох лезлі да дзядзькоў назойлівымі аваднямі. Таму гаспадары і адмахваліся ад вас.

— Ты, Аксеня, заўсёды маеш рацыю, — згаджаецца Міхась Карнялюк. — Але ж не ўсе гандляры-вяскоўцы нас пугай сцябалі, некаторыя і частавалі калі-нікалі.

— Гэта, пэўна, толькі дабрадзеі, — расквітнеў усмешкай твар субяседніцы. — Збольшага ж вас ці пугай адорвалі, ці паліцыянтаў нацкоўвалі. — На хвіліну задумаўшыся, яна запытальна паглядзела на Кандратовіча: — Ты аднаго лета неяк знік з нашай кампаніі… Куды падзеўся?

— Гэта мой сакрэт, але раскажу, — усміхнуўся Янка. — Сваяк да нас прыязджаў, дзядзька Балтуцкі, з трыма дарослымі сынамі. Яны і ўгаварылі маці ўзяць мяне на хутар. Дзядзька меў пасеку, і мы з хлопцамі выкачвалі мёд. Я круціў медагонку, а пасля ласаваўся смачным мёдам, запіваючы кіслым малаком. Хлопцы жартавалі: «Асцерагайся, Янка, мёду — на жываце можа выступіць — усе мухі на цябе злязяцца». А дзядзька Балтуцкі заступаўся: «Не слухай іх, Янка, — мядок вельмі карысны…» Урэшце ў дзядзькі з гэтым мёдам прамашка атрымалася: паліцаі абчысцілі камору, выграблі тры малочныя бідоны свежага мёду. Не знайшлі толькі ладны збан леташняга, зацукрэлага…

А бясконца-доўгімі зімовымі вечарамі мы бавілі час у прасторнай, вялікай хаце нашага суседа дзеда Рыгора, якога памалечы звалі Гарыкам.

Дзед баіў казкі. Калі ж слухаць надакучвала, мы плішчыліся да акна і пазіралі на зацемненую вуліцу, якая вяла на ўскраіну, на Глінішча — месца, дзе некалі капалі гліну і выраблялі цэглу. З вуліцы чуўся тупат: ці не кожнага дня чужынцы гналі людзей на расстрэл, — і мы шчыльна заціскалі вушы, каб не чуць дзіцячага плачу і страляніны…

Каб пазбавіцца маркотных думак, Янка прапануе прайсціся па замкавым парку. Аксеня нехаця згаджаецца. Міхась пачынае распавядаць векавечную легенду пра Чорную даму, прывід якой тут жыве па сённяшні дзень і начамі гуляе па парку.

— А чаму б нам не наведаць замак? — змахнуўшы слёзы ўспамінаў, прапанавала Аксеня. — Мая сяброўка-нясвіжанка казала, што пасля рэканструкцыі яго пертварылі ў сапраўднае дзіва.

У Кандратовіча ад сяброўчынай прапановы раптоўна ўспыхнула нядобрае пачуццё. У вайну ў замку месціўся шпіталь. А дома — нечаканая бяда: у малой сястрычкі на ножцы ўтварыўся нарыў — дзень і ноч крычала ад болю. Мама, спакутаваная горам, павезла малую да ўрача. Уплёўся за маці і Янка. Неўзабаве малая паправілася. Аднак пакуль яе лячылі, Янка так надыхаўся ў прапахлым лекамі калідоры, што і цяпер пасля паліклінікі ў яго пачыналася алергія.

— Ты, Янчык, чаму такі задумлівы? — запыталася Аксеня. — Любуйся, бо калі яшчэ давядзецца такое пабачыць.

— Дзякуй, — ціха азваўся Янка, разглядаючы пакоі, упрыгожаныя карцінамі, партрэтамі і старадаўняй зброяй. — Я бачыў усё гэта двойчы яшчэ да нашэсця немцаў: нас з Міхасём сюды прывозіў дзядуля Гарык.

— А чаму ж мяне не запрасілі? — здзівілася Аксеня.

— Ты тады з маці ў Мінск ездзіла.

І Кандратовіч прыспешыў Аксеню:

— Хадзем на лужок, дзе акупанты цябе цукеркамі частавалі. Ты ж нас заўсёды розуму вучыла, дык скажы: чаго нямецкія шафёры плакалі, як у Германію вярталіся? Дадому ж ехалі...

Жанчына на хвіліну задумалася і сцішана вымавіла:

— Мо па жаночай пяшчоце сумавалі.

У гаворку ўклініўся Міхась, патрабавальна-строгім голасам, як і змалу:

— Абрыдзела мне згадваць вайну. Давайце лепш да дзядулі Гарыка завітаем.

Дзед Рыгор штодзень зімою распавядаў малым пра Радзівілаў. Гаспадара замка даводзілася насіць на руках па доме, выносіць на вуліцу, саджаць у крэсла, вазок ці машыну…

Гаспадары — нізкарослая, з жывым бляскам каштанавых вачэй, бабуля Люцыяна Ізольдаўна і высокі, крыху згорблены Рыгор Кузьміч, патомны княскі служка, — ветла сустрэлі нечаканых гасцей.

— Чаму жонак і дзетак не ўзялі з сабой — мы па іх сумуем, год не бачыліся, — з лёгкім дакорам спытала гаспадыня.

— Нашых жонак, шаноўная Люцыяна Ізольдаўна, з дачных агародаў ніяк не выкурыць: з рання да вечара полюць, а вечарамі паліваюць, — знайшоў апраўданне Карнялюк.

Гаспадыня ўздыхнула, правяла былых выхаванцаў у гасціную. У прасторным пакоі — карціны, стэлажы з кнігамі, шырокі стол, дэкаратыўныя крэслы, старадаўняя канапа і тумбачкі.

Дзед Гарык спачатку павёў гаворку пра сусветную палітыку, закідваючы кожнага няпростымі пытаннямі. А пасля заглыбіўся ва ўспаміны. Ён змалку займаўся цяжкай атлетыкай і вольнай барацьбой, выступаў на міжнародных спаборніцтвах, падчас аднаго з якіх пабываў у варшаўскім інстытуце кулінарыі. Тут і сустрэў Люцыяну Ізольдаўну…

Дзед Гарык спыніў гамонку, акінуў гасцей запытальным позіркам, адкашляўся:

— Вы, дзеці мае, не так проста да нас наведаліся. Што цікавіць вас гэтым разам?

— Даражэнькі дзядуля, вы жывы сведка замка, — Аксеня сарамліва апусціла вочы. — Ці праўда, што недзе паблізу замка схавана дванаццаць залатых апосталаў?

Густыя зморшчыны на старэчым твары выпрасталіся ад шчырай усмешкі:

— Тыя скарбы, пра якія вы нагадалі, многія шукалі: і ўлада, і чорныя капальнікі — нічога не знайшлі. Ведаюць пра таямніцу княскія нашчадкі.

Твар гаспадара зноў стаў сур'ёзны.

— А немчура ў вайну не шныпарыла па княскіх сусеках? — перапыніў Кандратовіч.

Па твары дзеда прабег цень знявагі.

— Пахапалі тое, што было навідавоку, дый часу ім нехапала, ледзь паспелі самі ногі вынесці ад маршала Жукава, што наступаў на пяты фронт.

На хвіліну між суразмоўцамі ўсталявалася цішыня. Збіраліся з думкамі пра чарговае пытанне, а гаспадар у памяці пералічваў, што немцам удалося ўхапіць у замку і вывезці.

Маўклівую паўзу парушае Карнялюк, сарамліва пазіраючы долу:

— Растлумачце, Рыгор Кузьміч, чаму ўлетку сорак чацвёртага пры адступленні, як вярталіся ў нямеччыну, і шафёры за рулём, і салдаты ў кузаве выціралі слёзы?

Ад нечаканага пытання твар гаспадара зноў стаў сур'ёзны, задумлівы:

— Гаравалі чужынцы не таму, што мала награбілі і не знайшлі Залатых Апосталаў, а напрыканцы вайны ўсвядомілі сутнасць падману ў абяцаных фюрэрам маёнтках і незлічоным багацці для кожнага.

— Во як, — працяжна здзівіўся філасофскаму тлумачэнню княскага служкі Карнялюк і сам сябе дапоўніў: — Падману не схаваеш, ён і выплыў у нашых няпрошаных гасцей вонкі не ў аднаго-двух, а ва ўсіх пагалоўна, каго нам давялося ў маленстве бачыць: і ў замкавым шпіталі, і пры адступленні ў сорак чацвёртым у той бясконцай калоне.

Гарык Кузьміч, пэўна, стомлены нашымі роспытамі пра чужынцаў, прыкметна рахваляваўся. Няспешна расчыніў інкруставаны пудэлак з пахкім тытунём, набіў пакаваў піпку з абліччам самога сябе і падаўся на прасторную веранду. Летні ветрык няспешна варушыў лёгкую ўзорыстую фіранку. Мы наважыліся ўслед, ды не паспелі. Перапыніў знаёмы здаўна лагодны галасок Люцыяны Ізольдаўны. Удваіх з Аксеняй яны пхалі ў гасцёўню трохпавярховую харчовую калясніцу з кулінарнымі прысмакамі і пітвом, пах і смак якіх запамяталіся кожнаму з нас змалку.

Пакуль жанчыны накрывалі стол, Карнялюк зноў цішком запытаўся пра нямецкія слёзы.

Пытанне выклікала ў гаспадара непадробны смех. Пераадольваючы пачуцці, ветэран параіў:

— А ты, Міхась, зазірні як-небудзь у нашу гасцініцу, там часцяком спыняюцца пажылыя нямецкія турысты: у замку бываюць, фарны касцёл наведваюць, на Глінішча кветкі прыносяць...

— Давайце, госцікі даражэнькія, будзем абедаць, — гаспадыня зіркнула на гадзіннік, — а то хутка вячэра прыспее.

Гаспадар напоўніў пітвом кілішкі: жанчынам — шампанскае, мужчынам — каньяк. Дрыжачым голасам прамовіў тост:

— За ваша, госцейкі, здароўе, каб не забывалі нас і часцей наведвалі пенаты свайго маленства.

Толькі спарожнілі кілішкі, як дзверы расчыніліся і на парозе з'явілася мажная высокая постаць. Аксенін муж Ігнат у льняной тэнісцы і белых шортах.

— Мый рукі і сядай за стол, — замітусілася вакол запозненага руплівая гаспадыня, — мы тут цябе, Ігнацік, зачакаліся.

Павесялелае застолле з прыходам новага госця дружна загаманіла. Сярод шматгалосся вылучыўся хрыплаваты барытон Рыгора Кузьміча:

— Скажы мне, Ігнаце, што ў тваім аб'ёмным пудэлку?

Пытанне выклікала ў госця шчырую ўсмешку:

— Адзін мой сябрук надумаў узвесці сабе асабняк на манер радзівілаўскага замка і папрасіў зрабіць яму праект. Бавячы час у замку, як некалі ў маленстве, накідаў эскізы, а астатняе дамалюю дома, — адказаў мастак-архітэктар, разгортваючы перад прысутнымі аркушы з малюнкамі, — няхай чалавек будуе, жыве ў сваім замку і адчувае сябе князем.

Гаспадар, седзячы поруч з Ігнатам, шапнуў на вуха:

— Няхай будуе, жыве ў замку, але князем ён адчуваць сябе ніколі не будзе — у такім званні чалавеку трэба нарадзіцца.

Гамонка застольшчыкаў зноў нязмушана перайшла на немцаў сорак чацвёртага. Яе ўзнавіў Кандратовіч:

— Табе, Ігнацік, хачу падказаць тэму для панарамнай карціны. Як управішся з заказам алігарха, напішы карціну адступлення слязлівых ваякаў у тым добра памятным годзе.

Твар мастака засвяціўся натхнёнай усмешкай:

— Я, браткі мае, і сам не раз над гэтым думаў, а цяпер, пасля такой творчай падказкі, абавязаны гэта зрабіць.

За гамонкай непрыкметна прамільгнуў час — у вокнах засінеў надвячорак. Аксеня, з дзяцінства маючы неабмежаваны ўплыў на сваіх дарослых сяброў, распарадзілася:

— Даражэнькія гаспадары, завітвайце да нас, заўсёды чакаем. А нам пара ў дарогу.

Люцыяна Ізольдаўна заўпарцілася:

— Столькі ж часу не бачыліся! Пабудзьце трошкі, — гаспадыня змахнула слязу.

Развіталіся. Да новай сустрэчы ў горадзе далёкага маленства.

# Характар натхнення — Пухавіцкі

**Мне часта прыгадваецца выказванне Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна: «Клянусь честью, ни за что на свете я не хотел бы переменить отечество или иметь другую историю, кроме истории наших предков». Асабліва тады, калі знаёмлюся з кнігамі гісторыка-краязнаўчай тэматыкі, якія ракрываюць не толькі значныя падзеі, але і расказваюць пра знакавыя постаці ў нацыянальнай гісторыі. Гэта тычыцца і таго, што з'яўляецца з-пад пяра Алеся Карлюкевіча.**

На ніве краязнаўства і радзімазнаўства (Адам Мальдзіс адрознасць паміж гэтымі паняццямі тлумачыць так: краязнаўства — тутэйшасць, радзімазнаўства — нацыянальная годнасць і гордасць) апошнім часам Алесь Карлюкевіч працуе асабліва плённа. Цэлая краязнаўчая бібліятэка напісана адным аўтарам. Істотна тое, што пісьменнік немалую ўвагу ўдзяляе падзеям на Ігуменшчыне і людзям, якія нарадзіліся ці звязалі з гэтым кутком свой лёс. Новая кніга Алеся Карлюкевіча «Краязнаўчы рэсурс у вывучэнні беларускай літаратуры» выйшла напрыканцы мінулага года ў выдавецтве «Адукацыя і выхаванне».

Літаратурнага краязнаўства ў беларускай практыцы ў такім аб'ёме, як у Алеся Карлюкевіча, па сутнасці, яшчэ не было. Адметнасць згаданай кнігі Алеся Мікалаевіча ў тым, што пад адной вокладкай змешчаны як бы дзве мініэнцыклапедыі Пухавіччыны: літаратурная і краязнаўчая. Ды не традыцыйныя, калі прыводзіцца пэўны тэрмін, назва і даецца да іх кароткае тлумачэнне, а кшталту «Праваслаўнай энцыклапедыі», альбо тамоў «Рускія пісьменнікі», у якіх змешчаны разгорнутыя артыкулы.




Дарэчы, творчасць Алеся Карлюкевіча — не такі ўжо і часты ў літаратуры выпадак, калі пісьменнік, знайшоўшы сваю тэму, увесь час трымаецца яе, пастаянна заглыбляецца ў сутнасць праблемы, на новым матэрыяле вырашаючы тое, што лічыць для сябе галоўным. Адносна дакументалістыкі, тым больш калі ў аснове — краязнаўства, гэта рэдкасць. Але паколькі «характар літаратурнага натхнення пухавіцкі», як прызнаецца пісьменнік, то ён пастаянна ў полі прыцягнення таго, што ніколі не выкрасліць з сэрца.

Чытач, адкрываючы для сябе малавядомае, а то і зусім невядомае, з цікавасцю перагорне старонку за старонкай, кожным разам знаходзячы штосьці новае. Узяць хоць бы сведчанні пра тое, што ў 1930 годзе на Пухавіччыне пабывала англійская пісьменніца міс Сесіль Чэстэртон. Дый далёка не ўсе ведаюць пра пухавіцкую старонку ў жыцці драматурга, кінасцэнарыста Рыгора Кобеца, які стаяў ля вытокаў беларускага кіно. Дарэчы, і ў далейшым Алесь Карлюкевіч не менш удала ўводзіць у сюжэтную канву аповеду сведчанні відавочцаў тых ці іншых падзей, спасылаецца на розныя публікацыі, дапаўняючы гэта ўласнымі росшукамі — вынікам сустрэч з тымі, хто валодае цікавай інфармацыяй. Падмогай для яго з'яўляюцца і архіўныя знаходкі.

Міжволі напрошваецца параўнанне з кнігай Алега Лойкі «Займальная літаратура». Алесь Карлюкевіч таксама ўспрымае кожны факт як бы на смак. І «смакуючы» той ці іншы факт, стараецца падаць яго так, каб чытач адчуў, наколькі прадмет гаворкі можа быць захапляльным. З'яўляецца нават адчуванне, што перад табой свайго роду краязнаўчая энцыклапедыя Пухавіччыны: нішто не прапушчана, нішто не абдзелена ўвагай. Пісьменнік не проста прыводзіць пэўныя факты, называе падзеі, пры гэтым аналізуючы іх, але дбае і пра тое, каб усё гэта ўспрымалася як мага лепш. Таму так да месца ўспаміны тых, у чым лёсе прапісалася Пухавіччына, а таксама ўрыўкі з твораў, якія робяць яшчэ больш запатрабаваным успрыманне інфармацыі.

Кніга «Краязнаўчы рэсурс...» дазваляе на прыкладзе аднаго раёна пераканацца ў тым, наколькі багатая на творчыя таленты наша зямля і наколькі моцныя творчыя ўзаемасувязі. Несумненна, што на малой карце Пухавіччыны, калі мець на ўвазе тэрыторыю раёна, відаць вялікая літаратура. Населеных жа пунктаў, якія маюць дачыненне да літаратуры, тут шмат: акрамя Мар'інай Горкі і пасёлка Мар'іна, Шацк, Блужа, Балачанка, Падбярэжжа, Караваева, Дзудзічы...

Кніга «Краязнаўчы рэсурс…» заканчваецца такой аўтарскай высновай: «мастацкая літаратура становіцца тады болей прыцягальнай, калі да знаёмства з ёй падыходзіш з уласнымі адкрыццямі і твора, і аўтара як нечага блізкага, роднага, у пэўнай ступені знаёмага. І гэтую задачу якраз і здольна вырашаць, на мой погляд, літаратурнае краязнаўства, веданне літаратуры агульнанацыянальнай з вышыні сваёй роднай і блізкай старонкі».

На мой погляд — таксама. Думаю, што ў гэтым упэўняцца ўсе, хто пазнаёміцца з новай кнігай Алеся Карлюкевіча. І будуць чакаць чарговай сустрэчы з аўтарам. Тым больш што і сам ён у «Пасляслоўі» сведчыць: «Вось і завяршылі мы вандроўку па літаратурных адрасах Пухавіччыны» і дадае: «Упэўнены, што завершанасць гэтая носіць чыста ўмоўны характар». Нельга не пагадзіцца.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Пра шараговае — нешарагова

## Паўсядзённасць Тані Скарынкінай




Гэтая паэтэса найперш прываблівае сваёй арыгінальнай і неардынарнай асобай. Таццяна родам са Смаргоні, доўгі час пражыла ў партугальскім горадзе Фару, а зараз зноў вярнулася на радзіму. Чытачу яна знаёмая па сваіх сюррэалістычных вершах, якія падобныя ці то на сны, ці то на трызненні. Зусім нядаўна ў Скарынкінай выйшла кніга малой прозы «Шмат Чэслава Мілаша, крыху Элвіса Прэслі» з такімі ж нерэальнымі, але не менш лірычнымі і прывабнымі аповедамі. І калі паэтычны зборнік быў напоўнены гукамі, пахамі, колерамі сонечнай Партугаліі, то празаічная кніга працінае смаргонскім каларытам.

Чытаючы творы Тані Скарынкінай, увесь час ловіш сябе на думцы, што тэкстам не хапае мастацкасці, вобразнасці, той пафаснай прыгажосці слова, якую чакаюць ад літаратуры. Бо многіх мастацкае чытво прываблівае тым, што дазваляе збегчы ад шэрай будзённай рэальнасці, хоць на гадзінку апынуцца ў ідэальным свеце. А Таня Скарынкіна піша менавіта пра шараговае, абсалютна звычайнае жыццё. Нават не пра сталіцу — пра маленькі раённы цэнтр, з усімі яго «прыўкраснасцямі» — хамаватымі, але такімі роднымі, прадавачкамі ў краме, пра маму і бабулю, пра сяброў дзяцінства і юнацтва, пра сябе і… пра кожнага з нас. Толькі дачытаўшы кнігу да канца, разумееш, што гэтая паўсядзённасць і ёсць мастацкі прыём і сродак выразнасці, галоўная «фішка» Тані Скарынкінай, магніт, які адначасова прываблівае і адштурхоўвае ад яе кніг (тут ужо залежыць ад «палярнасці» чытача).

Эсэ Тані Скарынкінай немагчыма назваць празаічнымі творамі. Хутчэй — паэмы-верлібры, дзе ёсць свая мелодыка, дакладны рытм. А рыфма і не патрэбная, каб не блытала і не адцягвала ўвагу. Але самае галоўнае ў творах Таццяны — гэта глыбіня, якая так зацягвае, што часам нават страшна.

Гэта кніга, у якой назва надзвычай дакладна раскрывае змест. Тут сапраўды вельмі шмат Чэслава Мілаша, і калі вы дагэтуль не чыталі творы нобелеўскага лаўрэата ці чыталі, але яны вам не палюбіліся, то Таня Скарынкіна прымусіць — калі не палюбіць, дык хаця б прачытаць. Ну і крыху Элвіса Прэслі вы таксама адшукаеце між радкамі!

Кнігі Тані Скарынкінай падобныя да вялікага запыленага фотаальбома з тоўстымі картоннымі старонкамі і пажаўцелымі чорна-белымі здымкамі. Калі гартаеш кнігу, паглынаюць хвалі ўспамінаў і прыемнай настальгіі, а на душы робіцца цёпла і ўтульна, нібы на цёплай вясковай печы пад бясконцыя бабуліны гісторыі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Жыў, каб помнілі

## (у памяць пра Уладзіміра Ермалаева)

Да самага апошняга дня ён безупынку працаваў — над сваёй новай, шостай, кніжкай. Здаў яе ў друк, прылёг адпачыць і заснуў назаўсёды, адляцеў у вечнасць.

Нарадзіўся будучы паэт 2 студзеня 1933 года ў вёсцы Галавачы Дрыбінскага (зараз Горацкага) раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўніка і калгасніцы. Лёс распарадзіўся так, што падчас вайны васьмігадовы юнак замяніў у сям'і бацьку. Пасля заканчэння Шыркавіцкай сямігадовай школы Уладзімір Ермалаеў паступіў у Мсціслаўскае педагагічнае вучылішча, дзе і пачаў спрабаваць свае творчыя сілы ў мастацкай літаратуры. Друкаваўся ў газетах. З верасня 1953 года У. Ф. Ермалаеў студэнт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. Атрымаў вышэйшую адукацыю настаўніка гісторыі, беларускай мовы і літаратуры. Працаваў у Смагоні, пераехаў у Мінск. Пасля працы ў Міністэрстве адукацыі працаваў як выкладчык. У кастрычніку 1968 г. зацверджаны на пасаду намесніка дырэктара рэспубліканскага міжгаліновага Інстытута павышэння кваліфікацыі кіруючых працаўнікоў і спецыялістаў галін народнай гаспадаркі БССР і адначасова старшым выкладчыкам. Са жніўня 1975-га восем гадоў працуе выкладчыкам кафедры «Гісторыя КПСС» Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. Уладзімір Ермалаеў падрыхтаваў і надрукаваў звыш 30 навуковых прац, прысвечаных пытанням сувязі навукі і прамысловай вытворчасці.

З ліпеня 1994 года на заслужаным адпачынку. Але такому чалавеку без працы не сядзіцца: пабудаваў дачу ў Крыжоўцы, узброіўся пішучай машынкай і на прыродзе, пад божым сонцам распачаў актыўную літаратурную працу. Усе раннія сатырычныя гумарэскі Уладзіміра Ермалаева, як ні парадаксальна, пачалі публікавацца падчас бурлівых сацыяльных перамен, на ўзмежжы разбурэння Савецкага Саюза, калі, здавалася б, не да вясялосці, і друкаваліся яны ў часопісу «Вожык», газеце «Літаратура і мастацтва» і іншых выданнях, гучалі па рэспубліканскім радыё і тэлебачанні. Усёй творчасцю ён сцвярджаў, што пра жыццё беларускае і гісторыю, пра зямлю і прыроду, пра людзей зямлі гэтай, роднага краю трэба пісаць, чытаць, выкладаць, размаўляць па-беларуску.

Услед за кніжкай «Хто не смяецца, той не есць» (1994 г.) з'яўляюцца «Пераход колькасці ў колкасці» (1997 г.), «Радком па кумпалу» (1998 г.), «Дулі будуць апасля» (2004 г.), «Смехам закаханыя» (2008 г.). Напісаў нават «Нарачанскі гімн», пакладзены на музыку. Яго вершы, мініяцюры ў асноўным гумарыстычнага і сатырычнага характару. Але асаблівага поспеху ён дасягнуў як вялікі мастак-парадыст. Пасля публікацыі трох зборнікаў у 1998 г. яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Сярод чытачоў вялікую папулярнасць паэту, аднаму з лепшых парадыстаў краіны, прынеслі кнігі «Дулі будуць апасля» і «Смехам закаханыя», дзе былі надрукаваны не толькі гумарыстычныя пародыі, але і лірыка і сатыра.

Ён вельмі любіў сваю сям'ю. Адзначыў залатое вяселле з адзінай каханай Галінай Міхайлаўнай. Дачакаўся ад сына двух хлопцаў і ад дачкі — унука і ўнучку. З нагоды васьмідзесяцігадовага юбілею творцы Саюз пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь адзначыў яго сваёй вышэйшай узнагародай — медалём «За вялікі ўклад у літаратуру». Гэта ўзнагарода натхніла на новыя творчыя здабыткі. Так і з'явілася ў 2015 г. новая, шостая, кніжка ў прэстыжнай серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» пад назвай «Смех у мех, а сум у торбу» выдавецтва «Чатыры чвэрці». Дырэктар выдавецтва Ліліяна Анцух змясціла ў кнізе артыкул «Замест некралога, або Нататкі выдаўца».

Каб захаваць памяць пра Уладзіміра Ермалаева, мы просім Саюз пісьменнікаў нашай краіны, мясцовыя органы ўлады разгледзець пытанне аб усталяванні мемарыяльнай дошкі на сцяне дома, у якім ён пражыў вялікую частку жыцця (вул. Захарава, 12, у Мінску). Акрамя таго, матэрыялы, прасвечаныя У. Ф. Ермалаеву, можна было б размясціць у музеях г. Мінска і г. Мсціслава Магілёўскай вобласці).

**Уладзімір ЛАРЧАНКА,**
**Анатоль АРБУЗАЎ**

# Дасціпныя адказы на «юныя» пытанні

Якім кнігам аддаюць перавагу дзеці малодшага, сярэдняга, старэйшага школьнага ўзросту? Ці складана паразумецца пісьменніку і юнаму чытачу? Гэта стала тэмай для абмеркавання літаратараў, бібліятэкараў і навучэнцаў сталічнай гімназіі № 11 падчас «круглага стала» пад назвай «Пісьменнік — бібліятэка — чытач» у сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 10, арганізаванага сумесна з Выдавецкім домам «Звязда» і Мінскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Мадэратар «круглага стала», супрацоўнік Выдавецкага дома «Звязда» Алена Стэльмах звярнула ўвагу ўдзельнікаў на тое, што гэты «круглы стол» увасабляе старт акцыі «Расцём з цікавай кнігай», ініцыяванай Выдавецкім домам «Звязда» і Мінскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. На працягу мая, чэрвеня і ліпеня ў бібліятэцы № 10 будуць праходзіць сустрэчы з айчыннымі дзіцячымі пісьменнікамі. Дарэчы, летась у Выдавецкім доме «Звязда» выйшла 25 дзіцячых кніг.

Паэт, празаік, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка» Генадзь Аўласенка ўпэўнены, што чытачам цікавей размаўляць з пісьменнікам, творы якога яны ўжо ведаюць: творчая сустрэча можа ператварыцца ў сапраўдную дыскусію! Аднак для падлеткаў, у якіх ужо фарміруюцца пэўныя крытэрыі адбору кніг, пісаць нашмат складаней, чым для малых — іх больш прывабліваe знешні выгляд кнігі, нагляднасць.

Юныя чытачы — пакаленне камп'ютарызаванае — добра арыентуюцца ў свеце навукі і тэхнікі. Задача пісьменніка — адцягнуць увагу ад камп'ютара і далучыць да друкаванага слова. Прычым не забываліся і на досвед папярэднікаў, у тым ліку пра савецкую літаратуру, — важна не страціць традыцыю эстэтычнага выхавання асобы.

Малодшага школьніка можа зацікавіць і краязнаўчая літаратура, і гісторыя, і фантастыка. Галоўнае, каб дзіця ўвогуле захаплялася чытаннем, лічыць пісьменнік Алесь Марціновіч. А калі чытаюць бацькі — будуць чытаць і дзеці.



Фота Сяргея Нікановіча.

Сёння выдаецца нямала добрых, густоўна аформленых беларускамоўных кніг, асабліва для маленькіх чытачоў. А добра ілюстраваную кнігу прыемна ўзяць у рукі. Такую думку падчас «круглага стала» выказала вядучы бібліятэкар кніжніцы Святлана Бахнова. Безумоўна, аб'ёмы продажаў маглі б шматкроць узрасці, калі б па дзіцячых кнігах стваралася больш мультфільмаў. Ці хаця б буктрэйлераў — кароткіх відэапрэзентацый, якія даступна і цікава раскрываюць змест кнігі.

Удзельнікі «круглага стала» падчас размовы паглядзелі буктрэйлеры на кнігі «Сумны суп» Вольгі Гапеевай, «Сем камянёў» Аляксея Шэіна і «Вялікая маленькая дзяўчынка» Марыі Бяршадскай. Сваю творчасць, у тым ліку кнігу «Прыгоды трытэшак у Беларусі», юным чытачам прадставіў празаік і сцэнарыст Алег Ждан. Як высветлілася, магія і чарадзейства — найбольш цікавая для дзяцей тэматыка. А ўвогуле юнаму чытачу патрэбна кніга, з дапамогай якой ён зможа знайсці дасціпныя адказы на свае пытанні.

**Яна ЯВІЧ**

# Індустрыяльны парк радком эсэ

**«Беларуска-кітайскае супрацоўніцтва. Шаўковы шлях і Індустрыяльны парк «Вялікі камень» маімі вачыма» — міжнародны творчы конкурс пад такой назвай ужо стартаваў.**

А прымеркаваны ён да 25-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Кітаем і Беларуссю.

Конкурс стане новай спробай гуманітарнага абмену ды супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі. Такую думку падчас прэс-канферэнцыі ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, прысвечанай пачатку конкурсу, выказаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Цуй Цымін.

Першапачаткова гэтае творчае спаборніцтва меркавалася праводзіць як конкурс эсэ. Але пасля арганізатары, у ліку якіх Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Міжнароднае Радыё «Беларусь» Белтэлерадыёкампаніі, Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Белдзяржуніверсітэта ды Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, вырашылі пашырыць жанравы дыяпазон. Таму цяпер можна дасылаць інфармацыйныя паведамленні, аглядныя артыкулы, празаічныя і паэтычныя творы. Нават відэанарысы! Па задуме арганізатараў аснову твораў павінны складаць людзі і падзеі, развагі пра перспектывы кітайска-беларускага супрацоўніцтва.

Дарэчы, у конкурсе могуць удзельнічаць як грамадзяне Беларусі, так і грамадзяне іншых краін, якія пражываюць у Беларусі, — без абмежавання ўзросту і сацыяльнага статусу. Творчыя работы (на рускай, беларускай і кітайскай мовах) можна дасылаць на электронны адрас *silkwayessay@gmail.com* да 31 снежня гэтага года. Па выніках конкурсу 20 лепшых твораў увойдуць у калектыўны зборнік, а 6 — будуць узнагароджаны прызамі I, II і III ступеняў. Расповед пра пераможцаў творчага спаборніцтва і інтэрв'ю з імі прагучаць у эфіры Міжнароднага радыё «Беларусь».

— Акрамя зборніка асноўных дакументаў, падпісаных дзвюма краінамі за чвэрць стагоддзя, да юбілею беларуска-кітайскіх дыпламатычных адносін плануецца выдаць кнігу, у якую ўвойдуць успаміны паслоў Беларусі ў Кітаі і Кітая ў Беларусі, а таксама правесці некалькі тэматычных выставак, — распавёў старшыня таварыства «Беларусь — Кітай» Анатоль Тозік, які ўзначальвае журы конкурсу.

Паводле слоў галоўнага дырэктара галоўнай дырэкцыі міжнароднага вяшчання (Радыё «Беларусь») Навума Гальпяровіча, для нашай краіны гэта першы творчы конкурс такога ўзроўню.

**Яна ЯВІЧ**

*У пісьменніцкім асяродку*

# Грані лірычных строф

Новая пастаноўка Мінскага гарадскога тэатра паэзіі была прысвечана творчасці пісьменніка, галоўнага дырэктара галоўнай дырэкцыі міжнароднага вяшчання (Радыё «Беларусь») Навума Гальпяровіча.

«Так цяжка быць проста шчырым, бездапаможна шчырым, ні літасці, ні кахання за шчырасць сваю не прасіць…» Лірычныя роздумы-развагі, поўныя яркіх вобразаў, метафар, эпітэтаў, непаўторнага каларыту, люструюць самыя тонкія душэўныя грані Навума Якаўлевіча.

— Паэзія — гэта шэпт нябёсаў. Важна толькі пачуць гэты шэпт — яго можна перакласці на любую мову свету, — так разумее сутнасць высокага слова Навум Гальпяровіч.

Падчас імпрэзы гледачы пачулі вершы Навума Гальпяровіча ў выкананні мастацкіх кіраўнікоў народнага літаратурнага тэатра «Жывое слова» Алесі Сівохінай і Алеся Мойскага, а яшчэ — артыста і рэжысёра Алега Вінярскага, артысткі Маргарыты Захарыя. Песні на вершы Навума Гальпяровіча выканалі кампазітар і спявак Алег Сямёнаў і бард Наталля Нікіціна.

Трэці зборнік члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэта-гумарыста Міхаіла Уласенкі «Вершаплёт», які выйшаў у айчынным выдавецтве «Белпрынт», старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Дуктаў назваў «кнігай сталага і самабытнага паэта». Падчас прэзентацыі ў Горацкім раённым гісторыка-этнаграфічным музеі ўдзельнікі клуба студэнцкай моладзі «Дэбют» дэкламавалі вершы са зборніка. У імпрэзе ўдзельнічалі і горацкія паэты, члены народнага літаратурнага аб'яднання «Роднае слова». Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» паведаміла кіраўнік народнага аматарскага аб'яднання «Роднае слова» (г. Горкі) Людміла Дзеружкова.

На пасяджэнне літаратурнага клуба «Шчырасць» на базе сталічнай публічнай бібліятэкі № 22 завітаў пісьменнік, сябар СПБ Змітрок Марозаў. Гасцямі імпрэзы сталі курсанты ваенна-тэхнічнай кафедры БНТУ, настаўнікі і навучэнцы сярэдняй школы № 25. Творца прадставіў свае паэтычныя зборнікі «Я з вёскі, я — свойскі, язбоўскі», «Гронкі зорных суквеццяў», «Мне Богам дадзена Радзіма», «Вачыма сэрца». На думку кіраўніка літаратурнага клуба «Шчырасць», старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова, Змітрок Марозаў — паэт выключнай лірычнай і эмацыянальнай сілы.

У чытальнай зале ладзілася выстаўка кніг Змітрака Марозава «Хвалюючы сэрца продкаў запаветы…», падрыхтаваная супрацоўнікамі кніжніцы. Рэдакцыя «ЛіМа» даведалася пра гэта ад загадчыцы бібліятэкі Наталіі Ярашэвіч.

Днямі дзевяцікласнікі Уздзенскай сярэдняй школы № 2 імя К. Крапівы сустрэліся ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Труса са сведкам чарнобыльскіх падзей пісьменнікам Дзмітрыем Вінаградавым. Пра гэта рэдакцыі распавяла бібліятэкар аддзела абслугоўвання і інфармацыі ЦРБ імя П. Труса Ліана Тападзе. Некалькі гадоў таму пабачыла свет кніга Дзмітрыя Леанідавіча «Час выбраў нас», дзе адлюстраваны рэальныя факты, трывогі і перажыванні чалавека, які прайшоў скрозь полымя чарнобыльскай трагедыі. Гэтая тэма стала ключавой і для кнігі Дзмітрыя Вінаградава «Хойнікшчына. Легенды. Падзеі. Людзі».

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Разам!

Творы беларускіх класікаў напярэдадні Дня Перамогі ўслых чыталі ветэраны, чыноўнікі, вучоныя і прадстаўнікі бізнесу ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Карскага.

Другі этап абласной акцыі «Чытаем разам» быў прысвечаны літаратуры пра вайну. Са сцэны гучалі ўрыўкі з твораў Васіля Быкава, вершы Ніла Гілевіча і Пімена Панчанкі. Чытальнікамі выступілі ветэран Вялікай Айчыннай вайны Рыгор Абялеўскі, намеснік начальніка Гродзенскай пагранічнай групы Максім Літвінскі, прадстаўнікі гарадскіх і абласных арганізацый.

Паводле дырэктара абласной бібліятэкі Лідзіі Мальцавай, акцыя «Чытаем разам» — сумесная ініцыятыва Гродзенскага аблвыканкама і кніжніцы. Мерапрыемства, прысвечанае Году культуры, мае на мэце папулярызацыю беларускага прыгожага пісьменства. Дарэчы, публічныя чытанні з удзелам вядомых людзей праводзяцца штомесяц. І не толькі ў Гродне — ва ўсіх раёнах Прынёманскага краю.

**Іна ЛАЗАРАВА**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**6 мая** — *на літаратурнае свята — падвядзенне вынікаў літаратурнага конкурсу «Тут пачынаецца Радзіма», якое адбудзецца ў культурна-асветніцкім цэнтры Інстытута пагранічнай службы Рэспублікі Беларусь (вул. Славінскага, 4). Пачатак у 15.30.*

**11 мая** — *на свята дзіцячай кнігі ў публічную бібліятэку № 13 (вул. Народная, 43а) з удзелам пісьменніцы Яны Явіч. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**12 мая** — *на творчую імпрэзу ў літаратурны клуб «Сябрына» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 89) з удзелам паэтэсы Ніны Галіноўскай і рэдакцыі часопіса «Шапокляк». Пачатак а 12-й гадзіне.*

**12 мая** — *на творчую сустрэчу паэта Міхася Пазнякова з чытачамі г. Быхава «Мой паклон табе, Радзіма!», якая адбудзецца ў кінатэатры «Радзіма» (вул. Леніна, 54). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**13 мая** — *на літаратурнае свята «Час жніва і час пакаяння» ў СШ № 218 (вул. Ясеніна, 13), прысвечанае творчасці пісьменніцы Наталіі Касцючэнка. Пачатак у 10.30.*

**13 мая** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**12 мая** — *на імпрэзы з удзелам сяброў аддзялення ў межах рэспубліканскай выстаўкі «СМІ ў Беларусі» (пр-т Пераможцаў, 14). Пачатак у 16.30.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**11 мая** — *на літаратурна-музычную кампазіцыю «Пусть живые запомнят, поколения знают» з удзелам віцебскіх пісьменнікаў у Віцебскую гарадскую бібліятэку імя А.С. Пушкіна (вул. Горкага, 61). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**12 мая** — *на ўрок гісторыі «Наш герб і сцяг — гэта сімвалы незалежнасці» ў бібліятэку г. п. Руба (вул. Цэнтральная, 7). Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**11 мая** — *на літаратурны час да 105-годдзя з дня нараджэння Васіля Віткі «У дзядулі Васіля вельмі чулая душа…» ў бібліятэку-філіял № 10 г. Гомеля (вул. Цімафеенкі, 12). Пачатак у 11.00.*

**12 мая** — *на творчую сустрэчу навучэнцаў 9 — 11 класаў СШ № 53 г. Гомеля (вул. Б. Царыкава, 36) з празаікам Уладзімірам Гаўрыловічам і паэтам Святаславам Крупенькам. Пачатак а 14-й гадзіне.*

# ВЫСТАЎКІ МАЯ: НЕ АБМІНІ!

**У красавіку многія дзеячы беларускага мастацтва ажывіліся і ладзілі традыцыйныя і арыгінальныя, эксцэнтрычныя выставачныя праекты. На шчасце, у маі імпэт не згубіўся, і творцы працягваюць актыўна захапляць гледача навізной і свежасцю ідэй. Пра некаторыя маштабныя выстаўкі карэспандэнты «ЛіМа» пісалі ў мінулых нумарах. А паколькі ў Мінску дэманструецца яшчэ мноства цікавых праектаў, мы прапануем чытачам «ЛіМаўскі» арт-агляд:**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

1 Беларускі скульптар Сяргей Парцянкоў і іспанскі мастак Дуйлія дэ Хенара аб'ядналі сваю творчасць у адну экспазіцыю. Эксперыментальны сінтэз іспанска-беларускага мастацтва будзе даспадобы гледачам, якія жадаюць адначасова атрымаць разнастайныя эмоцыі. Абсалютна непадобныя ў тэмах і падыходзе, творы мастакоў размешчаны ў адной зале і выглядаюць пры гэтым гарманічна.

Гомельскі скульптар Сяргей Парцянкоў, альбо, як яго называюць, майстар «жывога жалеза», стварае з дробных металічных дэталяў і механізмаў фантастычных істот. Сярод іх — жукі, страказа, матылі, рыбы. У звычайнай жалезцы аўтар бачыць рухавік вечнасці і сімвалы прыроды. Ён зацікаўлены светам, працэсамі існавання. Праглядаючы экспазіцыю, здаецца, што творы майстра добра б выглядалі ў якасці дэкарацый на сцэнах сучасных тэатраў альбо лаканічна ўвайшлі б у сюжэты фантастычных кінафільмаў.


Дуйлія дэ Хенара «Эцюд партрэта: Інакенцій Х», 2015 г.

Калі Сяргей Парцянкоў стварае скульптуры з кавалачкаў металу, то мастак Дуйлія дэ Хенара людзей на сваіх палотнах збірае па частках. У яго герояў няма агульнага твару альбо цела, чалавек намаляваны па прынцыпе выдзялення пэўных цялесных ліній метадам кантрасту. Аўтар працуе ў стылі кубізму і фігуратывізму, працягваючы традыцыі італьянскіх мастакоў Пабла Пікаса і Амедэа Мадзільяні.

## ГАЛЕРЭЯ «МАСТАЦТВА»

2 Хараство і прыгажосць прыроды — галоўная тэма выстаўкі «Лінія гарызонту» Васіля Пешкуна. У яго экспазіцыі прадстаўлены рэалістычныя краявіды і націюрморты. Усе работы авеяны беларускім традыцыйным духам. Іх рамантычнасць зачароўвае, аддаляе ад пыльнага горада і пераносіць у вёску, дзе пах бэзу і ранішняй расы прабіваецца нават праз зачыненае акенца і абуджае ад сну.

Васіль Пяшкун — майстар лірызму, тонка адчувае прыгажосць радзімы. Яго прынцып — пісаць пейзажы з натуры. Жывапіс аўтара — пачуццёвая экспрэсія. Дзіўна, але мастак здольны перадаваць пахі прыроды. Яго краявіды насычаны свежасцю і настроем вясны.

Шмат працуе мастак над колерам: спецыяльна падсвятляе творы, надае адценні срэбра, каб вада ў рацэ пералівалася, а неба атрымалася чыстым. Ператвараючы палатно ў жывы твор, аўтар выкарыстоўвае своеасаблівы 3D-эфект. Пранікнёнай пачуццёвасцю Васіль Пяшкун дае магчымасць гледачу азірнуцца вакол і адчуць прыцягальнасць роднай зямлі.



## ВЫСТАВАЧНАЯ ПРАСТОРА «КНІЖНАЯ ШАФА»



3 Фотамастак Міхаіл Гарус падрыхтаваў для мінскай публікі выстаўку выбраных фотаздымкаў, зробленых у канцы 80-х гадоў. У той час гэта быў маштабны праект, для рэалізацыі якога аўтар выкарыстоўваў павільённую камеру вялікага фармату. Да сённяшніх дзён ён не прымае камп'ютарную апрацоўку, а прапануе захапляцца сапраўдным фотамастацтвам: адразу ж пераносіць з плёнкі на фотапаперу.

Прадстаўленыя фотаздымкі нагадваюць альбом з дзяцінства. Чорна-белы колер. Што яшчэ можа падштурхнуць успомніць некалькі кадраў з мінулага? Але на здымках фотамастака ў эпіцэнтры ўвагі — не людзі, якія сядзяць побач, а асобныя побытавыя рэчы, напрыклад, запаленая на кухні лямпачка альбо бялізна на вяроўцы. Кадры прафесійныя: адна рэч, захаваная на плёнцы, паказвае і атмасферу здымка, і яго настрой.

Творчасць Міхаіла Гаруса зацікаўлівае глыбінёй і эмацыянальнасцю. На першы погляд, здымкі спакойныя, меланхалічныя. Але ж, калі паразважаць, колькі гісторый хаваецца хоць бы ў пакоі з лямпачкай і колькі там было сказана слоў, перажыта складаных момантаў. Адразу неяк па-іншаму ўспрымаеш візуальны спакой экспанатаў.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ


Уладзімір Ганчарук. Навігатар. З серыі Царства, 2016 г.

4 Тры мастакі сабраліся на адной пляцоўцы, каб паведаміць пра гульню з сімваламі. Экспазіцыя ўключыла каля 60 палотнаў. Уладзімір Тоўсцік, Алена Шлегель і Уладзімір Ганчарук вельмі падобныя па светаўспрыманні. Іх аб'яднала любоў да рэмінісцэнцый, самааналізу, гістарычных дэталяў. Жыццё, гульня і шчырасць — усё будуецца вакол гэтых паняццяў, выходных пунктаў, якія вызначаюць быццё.

Уладзімір Тоўсцік востра адчувае штодзённасць, яго работы быццам прыйшлі да нас з 50-х. Шмат цытаванняў з розных эпох і стыляў, эклектыка. Любімая стыхія — гарадское асяроддзе з яго зменлівасцю і бесперапынным рухам. Жанчына на беразе ракі выглядае як вячэрняя зорка. Дзяўчынка, што адлюстравалася ў старадаўнім люстэрку чымсьці напалоханая. Пастаянныя перасоўванні ў часе абуджаюць настальгію, але светлую: у рытмах начнога горада, водарах вясновых вуліц, ігры музыкантаў…

Жывапіс Алены Шлегель больш яркі, з мудрагелістымі сюжэтамі. Аўтар любіць звяртацца да сноў і мараў. Рамантычныя палотны ўступаюць у барацьбу са штодзённасцю. Надзвычай вялікая палітра дэталяў, асацыяцый і алегорый стварае эфект каруселі. Гэта спроба сабраць з мноства ўражанняў адзіную схему, жангляванне маскараднымі, гратэскнымі прыёмамі і… жаноцкасць.

Уладзімір Ганчарук таксама спалучае рэальнасць і фантастыку, гуляе з уяўленнем гледача. Знакі на карцінах пераносяць у карнавал сэнсаў. Магія, накладанне вобразаў тут нармальная справа. Велізарныя львы, караблі-прывіды і кракадзілы на шахматнай дошцы — гэта сапраўды арыгінальна.

Зашыфраванасць, неадназначнасць прадстаўленага дае падставу паразважаць. Наколькі нашыя веды пра жыццё аб'ектыўныя? Ці існуе ўвогуле нейкая адна ісціна? Як убачыць больш, зазірнуць за браму звыклага?

## ПРАСТОРА «ЦЭХ»


Фота Марыі Войцік.

Андрэй Касай «Дыскамфорт».

5 Смелая сацыяльная сатыра, пошук сэнсаў там, дзе за заслонай звыклага яны не кідаюцца ў вочы, метамарфозы з людзьмі і прадметамі — усё гэта на выстаўцы Андрэя Касая aka Флаконкішочкі (як творча называе сябе мастак) «Дыскамфорт». Экспазіцыя размясцілася на другім паверсе прасторы «ЦЭХ». Маскоўскі мастак нядаўна вярнуўся з Нью-Ёрка, дзе ўпершыню прадэманстраваў свае работы шырокай публіцы. Відаць, ён любіць эксперыментаваць, раздзіраючы прастору палатна на некалькі слаёў. Кухонныя дзверы падбісаюць на схіле пагорка, злучаючы прасторы хаты і вуліцы. Чырвоны амар туліцца ў шафе сярод белых кашуль, руйнуючы звыкласць. Чалавек з пакетам на галаве спрабуе пачытаць газету, дзе нічога не надрукавана… Смела, дзёрзка і сучасна.

Андрэй Касай на працягу многіх гадоў супрацоўнічае з такімі маркамі, як *Red Bull*, *Skittles*, *Adidas*, часопісамі «Афіша», «*Interview*», «Сакрэт фірмы», малюе афішы. Раней яго работы былі даступныя толькі ў лічбавым фармаце. Затое ён удзельнічаў у фестывалях кароткага метра — у дыяпазоне ад Мехіка да Берліна. З'яўляецца мультыплікатарам, аўтарам кліпаў вядомага расійскага гурта «Мумій Троль». Дарэчы, акрамя карцін, на выстаўцы ўвесь час дэманструецца не менш канцэптуальны відэаролік. Гэта сціранне межаў надзейнасці, выхад з зоны камфорту, расслаенне побыту, агаленне абсурднасці аднолькавага, цягучага, стабільнага.

**Вікторыя АСКЕРА, Марыя ВОЙЦІК**

# Характарыстыка беларускай душы



## ад герояў спектакля «Дзве душы» Купалаўскага тэатра

Гучная прэм'ера паводле аповесці Максіма Гарэцкага — гэта размова пра час. Нават адразу пра два часавыя прамежкі. Час, што даў падставы пісьменніку адлюстроўваць людзей і падзеі, у якіх яны імкнуліся знайсці сваё месца і быць шчаслівымі. І час, у якім жывём. Адлегласць паміж імі — амаль стагоддзе. Думкі — што тады, што зараз. Дзве беларускія душы (і так хочацца, і гэтак няблага) — гэта з'ява, можа быць, і сапраўды гістарычная. У тым ліку і з той гісторыі, што адбывалася на пачатку XX стагоддзя, а можа, і глыбей, як адчуваў

### МАКСІМ ГАРЭЦКІ

Ён патрапіў у вір ваенных, рэвалюцыйных і грамадскіх падзей. Патрапіў як чалавек. Але нарадзіўся ў іх як пісьменнік: фіксаваў, што адбываецца навокал. Шмат хто з вялікіх пісьменнікаў тады фіксаваў час. Але Гарэцкі рабіў гэта з беларускага пункту гледжання. З адчуванняў душы, якую раздзірае няпэўнасць. Вось і асаблівасць яго часу: у жорсткай форме і настойліва патрабаваў вызначыцца. Як асобнаму чалавеку, так і народам (ці асобнаму народу). Інакш па волі тых, хто гатовы быў вызначаць за іншых, у жорнавы гісторыі адпраўляліся цэлыя народы (іх асобныя прадстаўнікі, вельмі шмат…). Нават аўтар няскончанай аповесці.

Мы яго сустракаем на сцэне як апавядальніка, чалавека, які назірае за ўсім збоку, але ён ужо ведае… І дапамагае тлумачыць, што адбываецца. Калі б гэта быў проста апавядальнік, то прывід драмы не ўзняўся б над сцэнай ледзь не на пачатку спектакля (для тых, хто не чытаў твор). Наш апавядальнік апрануты як зняволены, катаржанін. Ён прамаўляе ад першай асобы — мае права: гэта нясконачаная аповесць яго ўласнага жыцця. Ад чаго сапраўды балюча. Асабліва калі дакументы з «расстрэльнай» справы Максіма Гарэцкага выводзяцца на экран. Цяжка ўявіць, што адбывалася ў душы яго пляменніка Радзіма Гарэцкага, які прысутнічаў на прэм'еры. Акадэмік і вядомы вучоны, які паслужыў Беларусі, ён лепш за іншых разумее, што прынесла тая эпоха яго сям'і, якая была рэпрэсіраваная. Выхаваны ў жорсткіх умовах, ён імкнуўся да радзімы. Перажыў столькі, што вагання, каму служыць, не было. Служыў Беларусі ўсёй душой. Як гэта, пакуль не разумее

### ІГНАТ АБДЗІРАЛОВІЧ

Галоўны герой аповесці і спектакля ўвесь час знаходзіцца паміж. Мы назіраем за ім з моманту нараджэння. Але паміж ім і маці паўстае яшчэ адзін хлопчык. Панскі сынок, народжаны прыкладна ў той жа час. Сялянку Маланку бяруць у панскі дом: пасля таго, як жонка пана Абдзіраловіча гіне ад нечаканага стрэлу. Немаўля застаецца без матчынай ласкі. Маланка павінна клапаціцца пра абодвух дзяцей аднолькава. Выкармленыя адным малаком, яны ўсё роўна выхоўваюцца рознымі. Пад розную музыку. У рознай веры. Адзін чытае «Ойча наш» па-руску, другі — па-польску. І, здаецца, у паніча Ігналіка і селяніна Васіля розны будзе крыж…

Шляхта і сяляне — два паралельныя сусветы. Яны і вызначалі існаванне душ, з дзвюма рознымі прыродамі, светаадчуваннямі. Гэтыя сусветы, тым не менш, маглі сутыкацца ці спалучацца, перасякацца і ўзаемадзейнічаць: у іх адно паходжанне, адзіная прывязка да зямлі, якая іх спарадзіла. Гарэцкі робіць так, што гэтыя сусветы існуюць адначасова ў адной асобе — у Ігналіку, раздзіраючы яго душу на часткі. Магчыма, таму, што маці яго падмяніла ў калысцы, і вырас сялянскі хлопчык у шляхецкай сям'і. Але ж не склаліся ў яго адносіны з бацькам, затое цеплыня адносінаў да Маланкі сапраўды ў самыя складаныя моманты. Аднак душэўныя хістанні Ігната ўзнікаюць задоўга да таго, як Маланка прызнаецца ў сваім граху. Яны нібыта ёсць яго сутнасць. Яго прырода. Яго крыж.

Акцёр Раман Падаляка вядзе свайго героя праз хістанні, і такое адчуванне, што сам імі кіруецца — можа, гэты вобраз яго цалкам падпарадкоўвае, ці сапраўды ўключаецца рыса народа, пра які пісаў Гарэцкі? Аўтар хоча давесці свайго героя да ўсведамлення, хто той насамрэч не паніч і не селянін. Ёсць нешта больш вызначальнае. Каб акцэнтаваць увагу на вызначэнні «беларусы», нам паказваюць Абдзіраловіча, напрыклад, «на імперыялістычнай вайне» і далей — як заклалі

### АЎТАРЫ ІНСЦЭНІРОЎКІ

Ад іх залежыла, як твор Гарэцкага перанесці на сцэну. Максім Клімковіч і Уладзіслаў Ахроменка выбудавалі сюжэт, звязалі асобныя сцэны (вобразам аўтара ў першую чаргу), за якім чытаецца не проста гісторыя герояў, а гісторыя краіны. Складаная задача — захаваць сэнс твора Гарэцкага і зрабіць яго тэатральным. Бо ў Гарэцкага няма канцоўкі (але гэта як паглядзець, калі аповесць «Дзве душы» спынілася на пахаванні аднаго з самых крывадушных і крывавых персанажаў, — ці не лагічны гэта фінал у нейкім сэнсе?).

Гісторыя ваганняў Абдзіраловіча не завершана. Ён толькі падыходзіць да думак пра нацыянальнае — і ёсць жа прыклады яго знаёмых, ёсць апантаная дзяўчына Ірына (актрыса Валянціна Гарцуева), якая натхняе сваёй упэўненасцю. Паглядзець на іх — мэтанакіраваныя людзі, жывуць без ваганняў і робяць сваю справу. Ігнат задумваецца. І, хутчэй за ўсё, дадумаецца, каб дзве душы, што жывуць у яго целе, прымірыліся на падставе адной ідэі. Яна закладзена пабудовай сюжэта спектакля, у якім расповед ідзе ўслед эвалюцыі душы Ігната. Для яго слова «беларус» пакрысе напаўняецца сэнсам. У кантэксце падзей, якія вызначалі ход стагоддзя і лёс беларускай нацыі, гэта выглядае эпічна. Так увасобіў рэжысёр

### МІКАЛАЙ ПІНІГІН

У яго пастаноўцы незавершаны (і невялікі) твор стаў сапраўднай эпічнай драмай на сцэне Нацыянальнага тэатра. А як яшчэ, калі трэба адлюстраваць эпахальныя падзеі пачатку XX стагоддзя з усёй панарамай галоўных ідэй. Тут і Першая сусветная вайна: людзі, якія разумеюць адзін аднаго, аказваюцца па розныя бакі фронту, і нехта павінен загінуць. Вайскоўцы, частка якіх захоўвае вернасць імперыі, як Гарэшка. А частка, як князь Гальшанскі, прамаўляе ад імя беларусаў. Ёсць белагвардзейскае змаганне за вялікую Расію. Гэта час, калі мутныя асобы вылазяць з розных куткоў і набываюць вагу: Гаршчок дзе толькі не пабываў, але прыстроіўся-такі да чырвонай улады. Рэвалюцыя і ідэі бальшавізму распаўсюджваюцца з неймавернай хуткасцю, прыходзяць нават у вёску, дзе кожны Васіль можа пачаць чытаць «Капітал» Маркса і натхняцца нянавісцю да класавага ворага. Выхаваны ў сялянскай сям'і Васіль (па паходжанні шляхціч, але не здагадваецца пра гэта) нібыта без ваганняў прымае рэвалюцыю. Так здаецца. Але не быў бы ён беларусам, каб і яго падвоеная душа не заявіла пра сябе, хоць бы кароткай фразай пра адчуванне фальшу. Эвалюцыя Васіля (адлюстраваная ацёрам Іванам Кушняруком) не завершана ў Гарэцкага. Нам яе ілюструюць хіба што ў апошняй сцэне. Усе, хто вагаўся і нават не вагаўся, на вачах за ўвесь ход спектакля, у выніку ідуць па канвееры карнай машыны рэпрэсій. Фатограф здымае іх для гісторыі. Гісторыя захавае хіба што іх справы ў архівах НКУС…

Ход, праз які рэжысёр яднае самога пісьменніка з героямі яго ж аповесці. Удалы ход для гэтага спектакля, нічога не скажаш (але новы хіба што для спектакляў самога Пінігіна). Аднак так падкрэслена рэалістычнасць усяго, што адбываецца на сцэне. Рэалізм тут кіруе і прасякае ўсё, нават сцэны, зададзеныя цалкам сучасным і месцамі вельмі канцэптуальным мінімалістычным мастацкім афармленнем (сцэнограф Барыс Герлаван). Спроба абстрагіравацца становіцца ўмоўнай, таму што падпарадкоўваецца рэалізму. Напачатку мы маем падвоены свет у адзінай прасторы (дзвюх сялянскіх сем'яў). Ён умоўна падзелены. Хоць пазнаць, дзе шляхта, а дзе сяляне, нескладана. Гэта пралог, але ён зацягваецца (у Гарэцкага — некалькі абзацаў першай невялічкай главы). У ім падкрэслена тэма крыжа шляхты (бацька Абдзіраловіч нясе крыж загінулай жонкі). Але той жа крыж быў і ў сялян. У канцы мы разумеем, што, незалежна ад сацыяльнага паходжання, людзей паяднала смерць. Тлустая кропка, за якой тлумачэнне героя-аўтара, чаму аповесць засталася незавершанай. Відаць, з-за ўмяшання рэалізму жыцця, які забівае.

Што да тэатра, то рэалістычны кірунак, нягледзячы на сучасныя рэжысёрскія падыходы, працягвае існаваць. Умоўнасць, вобразнасць, метафарычнасць тэатра ў гэтай пастаноўцы ў нейкім сэнсе таксама сталі ахвярамі — паводле таго, што трэба было сказаць прама, каб пачулі

### БЕЛАРУСЫ

Душа падвоеная, уласцівая народу, была тады і працягвае жыць дагэтуль. Таму што ў час самавызначэння, калі кожны Ігнат павінен быў заявіць сваю прыналежнасць да маці-Беларусі адкрыта, голас абарваўся. Засталася двудушнасць, калі мы — ці то мы, ці то не зусім мы, а амаль як іншыя. І топчамся на месцы, таму што ўсё ніяк не можам вызначыцца, дзе наша прастора. І што робіць людзей народам?

Таму героі гэтага спектакля — таксама і гледачы, да якіх скіраваны яго сэнс. І гэта сэнс ставіць твор на сцэне. Вось толькі сама пастаноўка, яе тэма (калі для нейкага адкрыццё), ілюструе ўзровень нашай самаідэнтыфікацыі на сучасным этапе.

Эпічнасць спектакля Нацыянальнага тэатра і прыманне публікай — сведчанне таго, што як народ мы думкамі ў мінулым стагоддзі. Не прайшлі свой шлях да канца. Сэнс слова «беларус» яшчэ шмат для каго патрабуе тлумачэння. І кожны можа быць такім жа Ігнатам у залежнасці ад абставін. І кожны мае магчымасць прывесці свае дзве душы да ладу цяпер, калі гэтага не зрабілі нашы папярэднікі на пачатку мінулага стагоддзя, калі ўзнікла хваля беларускага адраджэння і пасля, у 90-я гады, калі трэба было завяршыць нацыяўтваральныя працэсы. Але і дагэтуль беларускія дзве душы нагадваюць пра сябе. Гэта так пазнавальна, калі артысты паказваюць жыхароў Беларусі таго часу — нібыта бачыць іх цяпер (багата ўдалых акцёрскіх прац). Магчыма, калі гаворка ідзе пра нацыянальны характар, то ёсць рысы, якія не залежаць ад часу. Яны і робяць людзей, што жылі ў розных эпохах, прыналежнымі да канкрэтнай нацыі, у якой ёсць душа. Асабліва нашай: калі яна нават падзяляецца на часткі, то кожная застаецца беларускай.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

## Гучыць сучасна:

Адна душа казала: «Мне ўсё роўна… Мне ўсё роўна…» А другая прыкра балела і маўчала.

— Беларус, — адказаў Абдзіраловіч роўна і проста, але з дробачкай спагаднага смеху.

— А калі беларус, — дык скажыце ж вы мне: што вы робіце, каб адрадзіць нашую няшчасную бацькаўшчыну?

Бацькаўшчына — матка Беларусь? Ха-ха! Выбачайце, паночку, але мая бацькаўшчына — уся Расія.

***

Іншыя натуры, каб жыць далей і мець нейкі спакой, чуюць пільную патрэбу ў яснасці і добрай цямнасці ўва ўсім, што ёсць навакол, і таксама ў сваім жыцці за астатні, пасля такога ж уразумення, час. Гэтакіх натур найболей сярод славянаў і народаў Усходу. Яны патрабуюць нейкага здавальнення і спакою духу ў адносінах да ўсяго, што ёсць і што дзеецца на свеце. Час да часу проста карціць ім упарадкаваць думкі свае — гэта азначае: хоць і не развязаць спрадвечнага пытання: «Адкуля ўсё і што яно?» — дык хоць супакоіць сябе, падумаўшы, палетуцёўшы і йзноў набраўшыся яснасці ў паглядах на спрадвечна няяснае. З аднаго боку гэта выглядае патрэбным чалавеку падрахункам, а з другога боку — непатрэбнай і шкоднай штукай у такую пару, калі «грошы — час».

***

— Так, свой ці чужы, — падумаў ён з нейкім сорамам ці каяннем. — Я не ведаю, хто мне свой і хто чужы. Я дзяржуся дзікога нейтралітэту і ашуківаю тых і гэтых і самога сябе.

***

Я такі чалавек: пасылаюць — пайду, але сам ніколі не наб'юся, каб мяне паслалі. Так, няведама за што, і ў героі празвялі. Але гэта, казаў той, не геройства.

**З аповесці «Дзве душы»**

# Мае героі

## Вельмі асабістыя нататкі дакументаліста



**Вольга ДАШУК,**
**рэжысёр дакументальнага кіно, лаўрэат міжнародных кінафестываляў**

Дваццаць два гады таму я скончыла Акадэмію мастацтваў і атрымала дыплом з запісам «рэжысёр дакументальнага фільма». Здаецца, гэта было толькі імгненне назад. Зараз іду я на лекцыю да студэнтаў-рэжысёраў і думаю: «Што такога ёсць у мяне сённяшняй, апроч нейкага прафесійнага майстэрства, чаго няма ў іх? Што мяне адрознівае?» І адно я ведаю дакладна: у мяне ёсць героі маіх фільмаў.

Гэта вельмі асаблівая і дарагая частка прафесіі дакументаліста. Героі існуюць не толькі як канкрэтныя людзі ў знешнім свеце. Адначасова яны праяўляюцца як пастаянная нематэрыяльная прысутнасць у маёй свядомасці. Раней пры здымках яны пераходзілі на 35-міліметровую стужку, зараз — на відэа, аднак адначасова з гэтым яны робяцца неад'емнай часткай майго прыватнага вопыту. Са мной яны застаюцца, нават калі фільм заканчваецца. У мяне іх ужо шмат, і я ўсіх добра памятаю. З тым фактам, што ў мяне ёсць героі, звязаныя некаторыя дзіўныя і цікавыя рэчы ў жыцці.

Збольшага адчуваю да іх вялікую ўдзячнасць. Гэта ўнікальная сувязь, паміж імі і мной. Як рэжысёр, калі я раблю фільм, на нейкі час я маю права іх «прысвоіць». Магу з імі рэгулярна сустракацца. Мы можам нешта разам рабіць, падарожнічаць. Магу задаваць ім пытанні, якія нявеатліва задаваць чужому. Але ў гэты момант усе яны для мяне ўжо не чужыя. Яны гэта адчуваюць і ўнутрана гарнуцца да мяне, падыходзяць трохі бліжэй, бліжэй ці зусім блізка, з кожным героем гэта бывае па-рознаму…

Усё гэта пачынаецца задоўга да таго, як фільм запускаецца ў вытворчасць. Часта ты сам знаходзіш тэму і, адпаведна, сам выбіраеш герояў. Часам нехта піша сцэнарый, і пазней табе «даюць» тэму разам з героямі, якіх зусім не ведаеш. Для рэжысёра гэта справа рызыкоўная. Аднак любы фільм — справа рызыкоўная, нават калі здымаеш на тэму, якой прагнуў усё жыццё. Але са «сваёй» тэмай больш ці менш ясна, як пачынаць, бо ўжо нейкую працу па адборы правёў, магчыма, згоду герояў на здымкі атрымаў. А вось з «чужой» тэмай усё намнога складаней. Ясна, праца табе трэба, і калі тэма больш ці менш задавальняе, ты згаджаешся і тут жа мусіш мець справу з чужымі ідэямі і незнаёмымі людзьмі. І, дзіўная рэч, менавіта ў гэты момант адбываецца магічная трансфармацыя. Герой ці героі будучага фільма могуць яшчэ і не ведаць пра тваё існаванне, а ў цябе ўжо абуджаецца да іх асаблівае пачуццё. Той факт, што яны фармальна сталі тваімі героямі, усё мяняе. Ты пра іх пачынаеш думаць як пра кагосьці, каго ведаеш. Робіш даследаванне. Пачуццё, што пануе табой у гэты момант, — цікавасць, што ты адчуваеш да сваіх персанажаў. Забаўна, але гэта пачуццё ніколькі не залежыць ад таго, ці герой жыве сёння ці ён — гістарычная фігура з далёкага мінулага і ўжо даўно памёр.

Больш за тое, для мяне гэта ўсё функцыянуе гэтаксама нават з «чужымі» героямі, якіх пачынае здымаць іншы чалавек. Я часам пішу дакументальныя сцэнары для майго мужа, рэжысёра Віктара Аслюка, ці дапамагаю яму з ягонымі фільмамі якім іншым чынам. У гэтым выпадку нічога не магу з сабой зрабіць — «прысвойваю» ягоных герояў таксама. Варта мне ўступіць з імі ў стасункі, і яно так само сабой адбываецца. Тады ахвотна згаджаюся камунікаваць з імі, праводжу інтэрв'ю для здымак ці крытыкую Віктара за ягоную стратэгію абыходжання з імі.

Так вось атрымліваецца, што ты на герояў «настройваешся» ў самым пачатку, як быццам ты з імі ўступаеш у нябачны кантакт яшчэ да таго, як сустрэнешся асабіста і пачнеш здымкі.

Тады непазбежна надыходзіць наступная стадыя: інтарэс ператвараецца ў страх. Страх, што ты з фільмам не справішся. Цябе атакуюць сумненні. Мусіш прыдумаць рэжысёрскі ход, каб узяцца за тэму і візуалізаваць будучы фільм. Звычайна гэта не атрымліваецца ці атрымліваецца не да той ступені, на якую разлічваеш. Аналізуеш усе магчымыя «хады», як распавесці гісторыю, але большасць з іх падаюцца занадта трывіяльнымі, каб на іх можна было спыніцца, а вось найлепшы варыянт у галаву так і не прыходзіць. Нярэдка за гэта пачынаеш вінаваціць герояў. Прыходзіць яснае ўсведамленне, што яны тваіх спадзяванняў не апраўдваюць. Яны занадта прымітыўныя, ім не хапае глыбіні, яны зусім не яркія асобы і менш артыстычныя, чым хацелася б, і, увогуле, ім мала што ці зусім няма чаго сказаць… Гэта, можа, часткова і справядліва, але таксама цалкам справядліва, што ты іх лёгка робіш адказнымі за ўласны недахоп уяўлення і стэрэатыпізаванае мысленне.

Пасля гэтага да першага страху абавязкова далучаецца другі. Зараз ужо баішся за саміх герояў. Напрыклад, падаецца лагічным і жаданым для фільма запланаваць некалькі эпізодаў, якія герою складана вытрымаць. Цяжар рэжысёрскай адказнасці можа быць невыносным. Разам з тым, калі ты, як рэжысёр, вельмі далікатны, асцярожны і шалёны супраць усялякай рызыкі, табе ў гэтай прафесіі адназначна няма чаго рабіць.

У фільме «Кінааматар. Восеньскі сон» для здымак я зацягнула майго васьмідзесяцігадовага героя Анатоля Шнэйдэра на вяршыню велічэзнага пагорка, па беларускіх мерках, амаль што гары. Не тое каб ён быў супраць (яму цікава было, ён сам хацеў), але не быў упэўнены, як ягоны арганізм на такі пад'ём адрэагуе, таму баяўся. Я загадзя прачасала ўсе магчымыя сцежкі наверх і знайшла найменш стромкую. А каб ужо раз і назаўсёды забіць згрызоты сумлення, узяла на гару Анатолеў ціскамер. У выніку нічога кепскага не здарылася, у мяне з'явілася фінальная сцэна, добрая і візуальна, і па змесце.

У іншым выпадку мой герой з фільма «Не адзін», мастак Віктар Залацілін, ростам 131 сантыметр, доўга сядзеў у траве, назіраючы на беразе Нёмана за заходам сонца. Ён гэта і без мяне рэгулярна рабіў, меў традыцыю штогод прыязджаць сюды вечарам у самы доўгі дзень года. Аднак так доўга на гэтым месцы ён звычайна не заставаўся, бо тут заўсёды поўна камароў. А вось даць здымачнай групе зрабіць сваю справу вымагала значна больш часу. Я была ў захапленні ад яго непахіснай постаці ў паўзмроку. Ён, закусаны з ног да галавы, нават не варушыўся, сядзеў спакойна і ненапружана, выглядаў пры гэтым нейкім недатыкальным. Гэты эпізод у рэшце рэшт у фільм уключаны не быў: аказаўся занадта банальным.

Магчыма, самы вялікі страх, які я перажыла, быў за майго героя Андрэя Нікалаева, прыкутага да ложка героя фільма «3 кіламетры да неба». Праз Андрэеву колішнюю неўтаймаваную актыўнасць яго напаткаў няшчасны выпадак, які пакінуў яго назаўжды асуджаным на цяжкую інваліднасць. Але потым з ім здарылася нешта нечаканае. Нейкія рэчы, што прыйшлі ў ягонае жыццё, сталіся адкрыццём: нацыянальнае ўсведамленне, рэлігійныя і гістарычныя таямніцы і, перадусім, напісанне вершаў. Праз любоў да паэзіі ён сустрэў здаровую дзяўчыну з надзвычайна прыгожымі валасамі і дасканалай фігурай. Яна ім так зацікавілася, што, нягледзячы на слёзы і мальбы маці, выйшла за Андрэя замуж. Калі я пазнаёмілася з ужо даўно ляжачым Андрэем, ён хацеў здзейсніць нешта ў ягоным стане неверагоднае. Ні больш, ні менш, як скокнуць з парашутам. Ён нічога супраць не меў, каб пра гэта быў зняты фільм, але ягоная жонка занадта хвалявалася за яго, каб дазволіць такі ўчынак. Я нервова чакала іх рашэння. Нарэшце жонка згадзілася, аднак тады пачаліся мае ўласныя турботы. Што, калі здарыцца нешта жахлівае? Як правіла, нават калі жонка проста падымала Андрэя з ложка і садзіла ў інвалідны вазок, ён траціў прытомнасць на некалькі хвілін. Усё ж ён скокнуў з парашутам, і пасля ўсяго, падазраю, я была нават у большай эйфарыі, чым яны абое.

Трэба сказаць, гэтае пачуццё прыходзіць надзвычай рэдка, у той час як іншыя эмоцыі — значна часцей. Як дакументаліст, ты чалавек вельмі залежны, бо залежыш цалкам ад сваіх герояў. Без іх гатоўнасці няпроста здымацца ў фільме, але і насамрэч адкрыцца перад камерай, нічога не выйдзе. Але ж няма ідэальных герояў. На любой стадыі вытворчасці яны могуць непрыемна здзівіць. Напрыклад, пачнуць патрабаваць грошы за здымкі. Аргумент, які ты тут жа выстаўляеш, што, маўляў, праект гэта некамерцыйны і мала ці безбюджэтны зусім, нічога не мяняе. Нават калі ты на гэтую цяжкавыканальную ўмову згаджаешся, можаш пачуць: «Толькі як заплаціце, зраблю, што просіце». І ад гэтага робіцца так сумна, бо гэта ўсё псуе. Нават калі людзям за здымкі плаціш, табе трэба больш чалавечныя адносіны з імі. У той жа час як прафесіянал ты павінен зразумець і гэты пункт погляду героя, прыняць такія паводзіны і не дапусціць, каб яны перашкодзілі табе надалей мець з ім справу, што, мушу прызнаць, надзвычай цяжка.

На шчасце, гэта рэдка здараецца, і большасць людзей гатовыя здымацца задарма. Тым не менш з імі цябе могуць сустрэць складанасці іншага кшталту. Адзін з маіх герояў, на рэдкасць таленавіты і адораны майстар, які вырабляў эксклюзіўныя драўляныя гадзіннікі і ўнікальныя музычныя інструменты, меў свае праблемы падчас працы над фільмам, якія ніяк са здымкамі звязаныя не былі. Яны назапашваліся і зрабілі яго вельмі раздражнёным і не схільным да пагаднення. Аднойчы ён не змог сябе кантраляваць і выгнаў мяне з дому. Ён сцвярджаў, што я парушыла нашы дамоўленасці, хоць мы збіраліся здымаць вельмі звычайную сцэну, якую ён сам раней ухваліў.

У гэты момант глыбокага крызісу мая група — усе мужчыны — спужаліся і імгненна рэтыраваліся, пакінулі мяне ў гэтым незайздросным становішчы адну. Гэта частка прафесіі дакументаліста — заўсёды гатоўнасць да выпрабавання. Якая б абураная я ні была, я мусіла перамагчы свой гнеў, крыўду і прыніжэнне і любой цаной выправіць сітуацыю. Гэта ж быў толькі пачатак вытворчасці, у мяне яшчэ амаль не было матэрыялу, і фільм так ці інакш трэба было заканчваць… І ў рэшце рэшт мне гэта ўдалося. Рэжысёра ўвогуле не так лёгка і выгнаць… Канечне, пазней у маім гатэльным пакоі я істэрычна плакала, праклінала працу і шкадавала сябе, такую тактоўную, разумную, за такое абыходжанне — і без усялякай віны з майго боку.

Пасля такіх успышак нейкія драбнейшыя здарэнні, кшталту выпадкаў малога падману, ужо не так выбіваюць з каляіны загартаванага рэжысёра. Ты проста адчуваеш сябе расчараваным і ціха ўздыхаеш. Разам з вышэйзгаданым майстрам я цярпліва чакала вяртання ягонай жонкі з Кітая, каб зняць іх эмацыянальнае спатканне. І ён нічога супраць не меў… Пра тое, што яна вярнулася, я даведалася, калі яна ўжо прабыла дома тры дні. З самага пачатку ён мне сказаў няправільную дату…



*Кадр з фільма «Не адзін».*

**Працяг будзе.**

# На крылах твораў Манюшкі

**Вакол старадаўняй беларускай музыкі ў грамадстве склалася мноства стэрэатыпаў. Думаюць, напрыклад, што гэта ці то спевы бабуль у хустачках, ці то гульня на баяне бравага вясковага хлопца. Яшчэ варыянт: да ўтварэння СССР музыкі ў нас не было. Абсалютны падман. Як у немцаў Бетховен з Бахам, у аўстрыйцаў Моцарт, так і ў нас былі Радзівілы, Тарасевіч, Орда, Агінскі і, вядома ж, Манюшка. Польска-беларускі геній нарадзіўся ў Чэрвеньскім раёне, вучыўся ў Мінску, тут жа пісаў першыя творы… а потым і паўплываў на станаўленне беларускай і сусветнай музычнай культуры. Дваццаць опер і аперэт, музыка да трох балетаў, два рэквіемы і больш за трыста песень, супрацоўніцтва з вядомым літаратарам Вінцэнтам Дунінім-Марцінкевічам — такі творчы багаж не можа не захапляць. Мы аднаўляем яго спадчыну сёння. Зусім нядаўна выдатнага кампазітара зноў узгадвалі. IV Адкрыты конкурс маладых выканаўцаў імя С. Манюшкі «Убельская ластаўка» прайшоў у сталіцы з 2 па 3 мая.**

Удзельнікі — зусім яшчэ юныя. Не студэнты ВНУ, як было ў мінулы раз, а навучэнцы музычных вучылішчаў (сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў) і вакальных падрыхтоўчых аддзяленняў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Словам, тыя, хто збіраецца паступаць, развівацца, рабіць першыя крокі ў вакальнай кар'еры, а таму мае патрэбу ў падтрымцы. Кантынгент — з усёй Беларусі. У гэтым годзе конкурс прайшоў як нацыянальны.


Фота Ганны Жабуртовіч.
Лаўрэат I прэміі Анастасія Рабцэвіч.

Старшыня журы конкурсу, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, кіраўнік калектыву «Беларуская капэла» Віктар Скорабагатаў паведаміў карэспандэнту «ЛіМа» пра асаблівасці цяперашняга вакальнага спаборніцтва:

— Конкурс на самай справе ўжо дванаццаты, чацвёрты раз ён праходзіць у адкрытым фармаце. Прыцягваць да ўдзелу менавіта навучэнцаў каледжаў — гэта вяртанне да вытокаў, канцэпцыі, з якой усё пачыналася. Адразу мы прымалі ўсе заяўкі, потым, калі іх стала вельмі шмат, выпрацавалі трывалы варыянт адбору. Не больш як трыццаць чалавек прымаюцца на першы тур, які ў гэтым годзе праводзіўся на месцах (у Лідзе, Мазыры, Брэсце, Гомелі, Баранавічах), каля дванаццаці — на другі, а на трэці — у межах шасці. Але прыйшлося зрабіць выключэнне і адабраць лепшую дзясятку, бо занадта добра ўсе спявалі, ніхто не «крычаў». І гэта не можа не радаваць.

Сэнс «Убельскай ластаўкі», па словах Віктара Скорабагатава, яшчэ і ў тым, што конкурс на пэўныя гадзіны становіцца пляцоўкай для абмену вопытам — паміж маладымі талентамі, педагогамі, канцэртмайстрамі, мастацкімі кіраўнікамі…

А ўвогуле «Убельская ластаўка» мае дзве асноўныя мэты — далучэнне моладзі да разумення таго, што «высокая» беларуская музыка існуе і мае глыбокія вытокі, а таксама раскрыццё творчага патэнцыялу адораных маладых вакалістаў. Ну, і смелых, вядома. Бо не ўсе вырашыліся падаць заяўку. А дарэмна. Дарэчы, падчас гэтага конкурсу Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр шукае сабе так званы кадравы рэзерв. Можна яшчэ і працу знайсці на будучыню.

— Кожны год на Беларусі нараджаюцца новыя таленты. Каб яны былі заўважаны, адзначаны, мелі пэўныя перспектывы, існуюць такія конкурсы. Бо вакаліст можа скончыць музвучылішча і пайсці працаваць шафёрам. Расчаруецца ў сабе, згубіць стымул. А вось калі цябе заўважылі, назад не адступішся. Дойдзеш да канца. Дакажаш, на што варты, — дадаў Віктар Скорабагатаў.

Удзельнікі прайшлі праз тры туры. Заключны канцэрт конкурсу прайшоў у Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь. Менавіта ў гэтым месцы пэўны час жыў Манюшка. Пра гэта таксама няшмат хто ведае…

Чым здзіўлялі маладыя вакалісты? Трэба было выканаць некалькі твораў: спачатку класічную арыю эпохі барока ці класіцызму, потым народную песню (арыю або раманс) і, нарэшце, любы твор Манюшкі на выбар.

Хто ж перамог? Лаўрэатам I прэміі стала Анастасія Рабцэвіч з Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі, якая вучыцца на трэцім курсе. Дзяўчына неардынарная, умее працаваць і ставіць мэты, нягледзячы на малады ўзрост. Займаецца не толькі акадэмічным вакалам, але і балетам, слухае оперу, але не абмінае ўвагай, напрыклад, і класічны рок. Анастасія Рабцэвіч з захапленнем вывучае нотныя партытуры, знаходзіць, між іншым, даволі рэдкія экзэмпляры эпох барока і рэнесансу, цікавіцца гісторыяй музыкі і біяграфіямі спевакоў.

«У мінулым конкурсе "Убельская ластаўка" я таксама ўдзельнічала, стала дыпламантам. Гэта і натхніла, бо вопыт вельмі каштоўны. Рыхтавалася год, ведаючы, з чым маю справу. У будучыні планую паступаць у беларускую кансерваторыю. Хацелася б пашырыць рэпертуар, у тым ліку і за кошт беларускай музыкі, асабліва мне падабаецца лютневыя мелодыі, а ад Манюшкі — увогуле ў захапленні!» — адзначыла пераможца.

Лаўрэат II прэміі — Дзяніс Карабач, студэнт 4 курса Маладзечанскага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага. Званне лаўрэатаў III прэміі падзялілі Уладзіслаў Зазулька (3 курс Брэсцкага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Р. Шырмы) і Руслан Маспанаў (4 курс Гомельскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў імя Н. Ф. Сакалоўскага).

Уражанні пераможцаў сышліся на тым, што ўзровень арганізацыі конкурсу — на вышыні, а натхнілі іх на творчы подзвіг сябры і педагогі. Самі вельмі хваляваліся. Зразумела. Але ніхто не шкадуе.

Віктар Скорабагатаў спецыяльна запрасіў у склад журы тых, хто пачынаў з перамогі на «Убельскай ластаўцы», а потым стаў заслужаным артыстам. Ацэньвалі сваіх наступнікаў салісты Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Аксана Волкава, Юрый Гарадзецкі, Уладзімір Громаў. З ліку педагогаў — прафесар кафедры канцэртмайстарскага майстэрства Беларускай акадэміі музыкі Ганна Каржанеўская. Ну і, канечне, мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Адам Мурзіч.

Заснавальнікамі «Убельскай ластаўкі» выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама, установа Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр і творчы калектыў «Беларуская капэла».

Зусім хутка, у 2019 годзе, творчая грамадскасць усяго свету, асабліва Польшчы, Расіі і Беларусі, адзначаць 200-годдзе з дня нараджэння Станіслава Манюшкі (1819 — 1872). Пра гэта ўжо актыўна кажуць, узгадваюць. А за 30 кіламетраў ад Мінска, у пасёлку Смілавічы, размешчана сядзібапалац, дзе кампазітар праводзіў дзяцінства. Дом да гэтага часу не адрэстаўраваны...


Выніковы канцэрт конкурсу «Убельская ластаўка».

**Марыя ВОЙЦІК**



# Беларуская «Малітва»

## прагучала на прасторах Амерыкі

Упершыню ў Злучаных Штатах Амерыкі выступіў калектыў Беларускай дзяржаўнай філармоніі: Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова запрошаны на *ArtsNaples World Festival*. На ўзбярэжжы Мексіканскага заліва, у маляўнічым горадзе Нэйплс, у штаце Фларыда, сабраліся лепшыя музыканты з усяго свету. *«Best of all worlds»* — гэта фраза стала асноўнай тэмай цяперашняга фестывалю. Раней ён быў прысвечаны рускай, лацінаамерыканскай, французскай і італьянскай музыцы. У першы юбілей фестывалю мастацкі кіраўнік, піяніст, дырыжор і грамадскі дзеяч Уільям Нол вырашыў сабраць лепшую музыку, якая раскрывала б пра культуру і музычны каларыт кожнай запрошанай краіны.

Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь выступіў на трох канцэртах. «Паколькі гэта першы візіт беларускага аркестра ў ЗША, па маёй прапанове ў праграму ўключылі канцэрт, які прадстаўляе беларускую культуру і музыку», — расказаў мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Яўген Бушкоў. Аркестр разам з салісткай, лаўрэатам міжнародных конкурсаў, адной з самых вядомых цымбалістак, якая двойчы была адзначана стыпендыямі і тройчы Гранд-прэміямі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Аляксандрай Дзенісеняй, паказаў прыгажосць нашага нацыянальнага інструмента падчас выканання канцэрта для цымбал Уладзіміра Кур'яна. Таксама прагучалі сачыненні Канстанціна Яськова *«Lullaby»*, Сяргея Картэса «Музыка для струн», фрагмент *«Concerto-Grosso №2»* Пятра Альхімовіча «Падарожжа па Беларусі», твор заснавальніка Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь Алега Янчанкі «Малітва», які быў напісаны спецыяльна для гэтага калектыву.

Пры падтрымцы консульства Беларусі ў ЗША быў арганізаваны «Вечар з беларускім камерным аркестрам» у горадзе Норд Порт для рускамоўнай аўдыторыі. Публіка сабралася дзеля таго, каб сустрэцца з аркестрам, які прывёз настрой і творчасць са славянскай зямлі.

На *ArtsNaples World Festival* Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь сыграў два канцэрты П. Чайкоўскага для скрыпкі і фартэпіяна з салістамі Філіпам Капачэўскім і Надзірам Хашымавым, а таксама канцэрт беларускай музыкі. Выступленні нашых музыкантаў адбыліся 30 красавіка, 1 і 3 мая.

Музыку ў выкананні Дзяржаўнага камернага аркестра пачулі за акіянам дзякуючы супрацоўніцтву Міністэрства культуры, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь і Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

**Юлія КАРДАШ**

# Прыгажосць сланечніка і філасофія слоў

## Важныя кампаненты мастацкага падыходу творчай моладзі

**Маладыя мастакі з усёй Беларусі ўзялі ўдзел у арыгінальным вясновым арт-праекце «Семечкі», у аснове якога — пазітыўная і натхняльная творчасць. Завітаўшы на другі паверх Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў, дзе дэманструюцца работы аўтараў, вы не толькі атрымаеце зарад сонечнай энергіі, але і раскрыеце мноства сэнсаў, пакладзеных у назву выстаўкі.**



*Анастасія Балыш «50 адценняў сланечніка».*

З назвы адразу зразумела: задача аўтараў праекта — паказаць маленькае семечка ў разнастайным праяўленні. Але чаму менавіта семечка? Абраўшы аб'ектам для творчых эксперыментаў семя сланечніка, маладыя аўтары звярнуліся да тэмы колазвароту жыцця: нараджэнне чалавека, развіццё і існаванне ў асяроддзі. Удзельнікі праекта запрашаюць дакрануцца да вечнага агню чалавечай душы, сцвярджаючы работамі, што душа ніколі не памірае, а, як маленькае зернетка, вырастае зноў. Адлюстроўваючы, здаецца, звычайныя працэсы штодзённасці, мастакі выносяць на паверхню глыбокую задуму прыроды, яе прызначэнне і ўздзеянне на свет.

Творчая моладзь прэзентуе каля ста пяцідзесяці цікавых твораў, якія безумоўна можна назваць дыялагічнымі. Прайсці міма, не здзівіўшыся мастацкай тэхніцы альбо метаду падачы матэрыялу, немагчыма. Кожны аўтар зразумеў задачу па-свойму: некаторыя паказалі сланечнікі без падтэксту, і атрымалася ўздзеянне візуальным эфектам. А ёсць мастакі, якім бліжэй філасофскае выкананне: творы пабудаваны на дробязях, з мноствам сэнсавых адценняў.

Буйства фарбаў — адна з важных характарыстык арт-праекта «Семечкі». Без сонечных, ярка-аранжавых фарбаў такога эфекту пазітыву не атрымалася б. Хоць на пачатку арганізацыі праекта мастакі былі вольныя імправізаваць ва ўсім, пачынаючы ад выбару матэрыялу, тэхнік выканання да выкарыстання розных метадаў адлюстравання задумы, многія даверыліся эфекту каляровасці і насычанасці свята. І не прагадалі: выстаўка атрымалася гарманічнай і захапляльнай.

Прыгажосць сланечніка і філасофія слоў — удалы канцэптуальны сінтэз мастацкага падыходу. Аўтары пераносяць наведвальнікаў у гады дзяцінства, дзе семечкі былі сапраўдным ласункам. Цяпер семечка для іх — вобразны кампанент, з дапамогай якога можна прадэманстраваць асноўныя працэсы светабудовы. Акрамя карцін, экспануюцца і работы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Семечка тут не жывапісная, а з рэальным воблікам. Ледзь стрымліваешся, каб не дакрануцца.

Ідэя арганізаваць арт-праект належыць мастацтвазнаўцы Наталлі Сяліцкай, якая ўпэўнена, што ў Беларусі не хапае мерапрыемстваў, конкурсаў для таго, каб развіваць творчасць маладых аўтараў, каб дапамагаць прабівацца на творчым шляху далей. Мастацтвазнаўца лічыць, што таленавітая, зацікаўленая ў творчасці моладзь павінна атрымліваць неабходныя веды ад мэтраў беларускага мастацтва, развіваць адзін аднаго. Арт-праект «Семечкі» прадаставіў магчымасць аўтарам з розных беларускіх гарадоў, сярод якіх ёсць і студэнты, паспрабаваць сябе на прафесійнай мастацкай пляцоўцы.

Увогуле «Семечкі» — праект добрага гумару. Ён дае магчымасць захапіцца эстэтыкай і рамантыкай прыроднай прыгажосці, адчуць глыбей вясновую тэму. Работы мастакоў ствараюць сонечную, жыццесцвярджальную атмасферу. Семечка ўспрымаецца як метафара таленту маладых творцаў, за кошт якой глядач атрымлівае выключна станоўчыя, цёплыя эмоцыі.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Наталля Іванова «Насенне жыцця».*

### Культурны ракурс

Полацк — самы старажытны беларускі горад, а Полацкая зямля — найбольш моцнае княства з усіх, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі ў IX — XIII стст. Менавіта тут жыў першы беларускі князь Рагвалод з дачкою Рагнедай. Яна, у сваю чаргу, першай прыняла хрысціянства. Тут сваю асветніцкую дзейнасць наладзіла Ефрасіння Полацкая — першая сярод усходніх славян прылічаная да святых. Адсюль родам і першадрукар Францыск Скарына.

Ува ўсім адчуваецца подых стагоддзяў, кліч каранёў! Асабліва — у архітэктуры: самы вытанчаны будынак у Полацку — гэта, мабыць, Сафійскі кафедральны сабор, пабудаваны першапачаткова паміж 1030 — 1060 гг., разбураны ў 1710 г. і адноўлены ў сярэдзіне XVIII ст. у стылі віленскага барока.

Арыгінальны будынак сабора не захаваўся, засталіся толькі фрагменты: рэшткі ніжніх сцен і слупоў, апсід вышынёй каля 11 метраў. Архітэктурнае рашэнне полацкага Сафійскага сабора падобнае з аднайменнымі храмамі Кіева і Ноўгарада. Гэта быў пяцінефны крыжова-купальны храм з княжымі хорамі, з выдзеленай алтарнай часткай у цэнтральнай апсідзе, сінтронам і купалам дыяметрам 5,85 м.

Сучасны Сафійскі сабор — адзін з найбуйнейшых культурных цэнтраў Беларусі. Тут праходзяць богаслужэнні і абрады, ладзяцца экскурсіі, канцэрты і творчыя вечары.

**Кацярына ШУГАЕВА**



**Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас *lim_new@mail.ru* з пазнакай *«Культурны ракурс»* — лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!**

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфаваць каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэкступ-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 5.05.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1736.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1878

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

ISSN 0024-4686